



# Рэгіянальная газета. Rh.by



тэлетыдзень

27 каналаў ад "Рэгіянальнай газеты"

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

12+

23 лютага 2018 года №8 (1191)







Віншуем мужчын са святам!

# Цырк-шапіто ў маладзечанскім футболе: за дзень змяніліся тры трэнеры, якіх ніхто і не прызначаў

ФК "Маладзечна ДЮСШ-4"


старонка 22

ВЫБАРЫ

# Каго абралі дэпутатамі ў Мінскі і Гродзенскі Саветы дэпутатаў

**Ужо вядома, хто прайшоў у дэпутаты абласных Саветаў. Захавайце спіс, каб ведаць, да каго звяртацца.**

Спісы апублікавала Цэнтральная выбарчая камісія. Мы абралі тых дэпутатаў, якія датычацца нашага рэгёна – Маладзечанскага, Вілейскага, Мядзельскага, Валожынскага, Смаргонскага, Ашмянскага, Астравецкага раёнаў.

**Спіс дэпутатаў Мінскага абласнога Савета дэпутатаў 28-га склікання**

| Назва і нумар акругі | Імя дэпутата | Год нараджэння | Пасада і месца працы | Партыйнасць | Месца жыхарства |
|---|---|---|---|---|---|
| Мядзельская №1 | Чабатар Віктар Іосіфавіч | 1962 | кіраўнік сялянскай гаспадаркі “Антэйсад” | Камуністычная партыя Беларусі | Мядзельскі раён, в. Восава |
| Вілейская сельская №2 | Юшко Ігар Аляксандравіч | 1963 | дырэктар Ільянскай сярэдняй школы | беспартыйны | Вілейскі раён, Ілья |
| Вілейская гарадская №3 | Цітуленка Таццяна Чаславаўна | 1965 | намеснік начальніка ўпраўлення па працы, занятасці і сацабароне Вілейскага райвыканкама | беспартыйная | Вілейка |
| Маладзечанская паўднёва-заходняя №4 | Сарока Святлана Рыгораўна | 1968 | дырэктар Палаца культуры ў Маладзечне | беспартыйная | Маладзечна |
| Маладзечанская цэнтральная №5 | Клокель Міхаіл Мікалаевіч | 1964 | дырэктар Маладзечанскага політэхнічнага каледжа | беспартыйны | Маладзечна |
| Маладзечанская паўднёва-ўсходняя №6 | Саўчык Іна Аляксандраўна | 1967 | загадчыца дзіцячай паліклінікі ў Маладзечне | беспартыйная | Маладзечна |
| Маладзечанская паўночная №7 | Асіповіч Валянцін Пятровіч | 1978 | начальнік Маладзечанскага раённага аддзела ўнутраных спраў | беспартыйны | Маладзечна |
| Лебедзеўская №8 | Ермаловіч Анатоль Аляксеевіч | 1961 | дырэктар Маладзечанскага лясгаса | беспартыйны | Маладзечна |
| Радашкавіцкая №9 | Мішчанка Алег Сяргеевіч | 1971 | дырэктар Радашкавіцкай цагельні | беспартыйны | Мінск |
| Валожынская №10 | Падгайскі Віктар Зянонавіч | 1972 | начальнік цэнтра банкаўскіх паслуг у Валожыне "Белагра прамбанка" | беспартыйны | Валожын |

**Спіс дэпутатаў Гродзенскага абласнога Савета дэпутатаў 28-га склікання**

| Назва і нумар акругі | Імя дэпутата | Год нараджэння | Пасада і месца працы | Партыйнасць | Месца жыхарства |
|---|---|---|---|---|---|
| Астравецкая №47 | Доўгі Рыгор Мечыслававіч | 1961 | дырэктар Астравецкага лясгаса | беспартыйны | Астравец |
| Ашмянская №48 | Канцавы Сяргей Анатольевіч | 1978 | дырэктар ААТ “Радыётэхніка” | беспартыйны | Ашмяны |
| Жупранская №49 | Турлай Раіса Мікалаеўна | 1968 | старшыня Ашмянскай раённай арганізацыі Беларускага прафесійнага прамысловага саюза работнікаў аграпрамысловага комплексу | беспартыйная | Ашмяны |
| Смаргонская №55 | Валковіч Дзмітры Уладзіміравіч | 1976 | генеральны дырэктар “Гроднааблдарбуд” | беспартыйны | Гродна |
| Сініцкая №56 | Кудзеньчук Сяргей Мікалаевіч | 1968 | галоўны доктар Смаргонскай цэнтральнай раённай бальніцы | беспартыйны | Смаргонь |
| Чапаеўская №57 | Станкевіч Дзмітры Зянонавіч | 1979 | дырэктар КУП “Жыллёвая рамонтна-эксплуатацыйная служба Смаргонскага раёна” | беспартыйны | Смаргонь |

# Еўрапейскія турысты будуць паляваць у лясах Вілейшчыны

ВІЛЕЙКА

Міністэрствалясной гаспадаркі Беларусі паўдзельнічала на міжнароднай выставе JAGD&HUND 2018 у Дортмундзе (Германія). Тут сабраліся паляўнічыя з усяго свету.

Прадстаўнікі Вілейскага доследнага лясгаса заключылі дагаворы з замежнымі калегамі на правядзенне паляўнічых тураў на Вілейшчыне восенню 2018 года.

Замежныя турысты зацікавіліся паляваннем на лася, глушца, ваўка, зубра.

**Аддзел інфармацыі.**



Па словах начальніка аддзела занятасці Таццяны Цітуленкі, у беспрацоўя – мужчынскі твар.
Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

# “Двое дзяцей, жывём у інтэрнаце, працуе толькі муж”

## Што шукалі людзі на кірмашы вакансій у Вілейцы

ВІЛЕЙКА

**14 лютага ў Вілейцы зладзілі вялікі кірмаш вакансій. У зале было больш за сто чалавек. Тыя, каму не хапіла месцаў, слухалі стоячы.**

Намеснік начальніка Вілейскага ГРАНС **Сяргей Крачкоўскі** прапанoўваў працу кіроўцы. Патрабаванні – сярэдняя адукацыя, служба ў войску, адсутнасць праблем з законам. Абавязкова – узрост да 30 гадоў. Такіх сярод прысутных не знайшлося.

Супрацоўніца Вілейскага доследнага лясгаса **Святлана Дубовік** запрашала на працу леснікоў у Старынкі, Вязынь, Трапалава. У Старынкі таксама патрабуецца кіроўца з катэгорыямі B і E. Пажадана, каб людзі мелі сярэднюю тэхнічную адукацыю. Ад красавіка пачне працаваць гадавальнік – на сезон спатрэбяцца жаночыя рукі. Будуць таксама набіраць людзей садзіць лес.

– Наша арганізацыя вялікая, – пераняла эстафету прапанoў прадстаўніца ЖКГ. Гэта майстар ЖРЭУ для правядзення рамонту дахаў. Абавязкова, каб была адукацыя будаўніка. Заробак не высокі, але стабільны.

У Вілейскі раённы вузел сувязі патрэбны спецыяліст з вышэйшай адукацыяй – інжынер па ахове працы.

“Людзі нам патрэбныя заўсёды”, – пачалі прамову госці са Смаргоні – прадстаўнікі завода “Кранаспан”, дзе вырабляюць пліты з драўніны. Тут маюць патрэбу ў бухгалтарах, упакоўшчыках, кантралёрах якасці.

Рабочым прапануюць гарачае харчаванне, медыцынскае абслугоўванне, вучобу без адрыву ад працы, стажыроўку ў Польшчы і Расіі. Віляйчан на працу і з працы даставіць аўтобус. Заробак рабочага – пагадзінны. Гадзіна – ад чатырох да сямі рублёў. Працуюць у тры змены. Прадпрыемства ўвесь час пашыраецца, таму вакансій шмат.

У філіял аўтапарка патрэбныя кіроўцы катэгорыі D. Раённаму спажывецкаму таварыству – прадаўцы ў крамы ў Бубнах і Куранцы. .

Маюць вакансіі сельскагаспадарчыя прадпрыемствы раёна ў Ільі, Даўгінаве, Бубнах. Галоўнаму заатэхніку ў Ільі абяцаюць плаціць каля 450 рублёў і наймаць жыллё.

Вялікая гаспадарка ў Даўгінаве. Сюды далучаныя Язні і Мільча. Калі знойдуць галоўнага інжынера і галоўнага доктара, дадуць жыллё.

Галоўнаму ветэрынарнаму доктару ў Бубнах прапануюць заробак 800-900 рублёў. Пажадана, каб была вышэйшая адукацыя. Але кандыдатуру з сярэдняй адукацыяй і з вялікім досведам працы таксама разгледзяць.

### Вакансій дастаткова, але...

Па словах начальніка аддзела занятасці **Таццяны Цітуленкі**, у студзені на ўліку па беспрацоўі стаяла 132 чалавекі: 94 – з горада, 38 – сельскія жыхары. Вакансій было 190.

Гэта добра, што вакансій больш, чым беспрацоўных, але не кожнаму беспрацоўнаму падыходзіць тая ці іншая вакансія. Напрыклад, у Вілейцы трэба некалькі дактароў, а ў многіх з беспрацоўных – базавая адукацыя.

Спецыялісты аддзела занятасці дапамагаюць ахвотным пайсці на “свае хлябы”: садзейнічаюць у адкрыцці прыватных прадпрыемстваў, дапамагаюць людзям, якія займаюцца агратурызмам і рамёствамі.

На адкрыццё ўласнай справы можна атрымаць субсідыю: для жыхароў вёскі яна складае 15 бюджэтаў пражытачнага мінімуму, а гэта амаль тры тысячы рублёў. Для гараджан – 11, або амаль дзве тысячы дзвесце рублёў. Гэтыя грошы пачынаючым прадпрымальнікам плацяць з абласнога бюджэту. У мінулым годзе такую дапамогу атрымалі 18 чалавек.

У беспрацоўя па-ранейшаму мужчынскі твар. На ўліку мужчын каля 70 працэнтаў. Нават сярод людзей, якія летась пачалі сваю справу на Вілейшчыне, больш жанчын.

На думку Таццяны Цітуленкі, не толькі шукальніку цяжка знайсці працу. Не лягчэй і працадаўцы знайсці добрага работніка.

– Я сама два разы была беспрацоўнай і добра ведаю стан гэтых людзей, – дзеліцца Таццяна Чаславаўна. – І ўсё ж лічу, калі ў чалавека няма праблем са здароўем і вялікіх амбіцый, працу знайсці можна. Галоўнае, разумець, што ніхто яе не прынясе табе на сподачку. Будзь гатовы перавучыцца, зразумей, што вышэйшая адукацыя, атрыманая некалькі дзясяткаў год таму, можа стаць неактуальнай.

Вялікія кірмашы вакансій у Вілейцы плануюць праводзіць раз на год, дні адчыненых дзвярэй – штомесячна.

### Тое, што прапануюць, не падышло

Віляйчанка **Святлана** беспрацоўная ўжо паўгода. Кажа, хацела б пайсці рабочай на “Буддэталі” або “Зеніт”. У іншы горад ездзіць не можа, бо даглядае хворую маму.

**Надзея** без працы год. Мае дваіх дзяцей – школьніка і студэнта.

**Жывуць на заробак мужа, які працуе на “Зеніце”. Жанчына чула, што ў іх мікрараёне будуць будаваць новыя дамы. Хацелася б мець сваю кватэру.**

Пакуль жывуць у інтэрнаце. Па спецыяльнасці жанчына – тэхніктэхнолаг мясамалочнай прамысловасці. Апошняе месца працы – кухонная рабочая ў каледжы. Кажа, хацела б працаваць па спецыяльнасці, дзе-небудзь на кухні, бо любіць гатаваць.

– Мяне не столькі сама праца цікавіць, колькі зручны графік, – дзеліцца набалелым **Валянціна**. – Да нядаўняга часу працавала ў “Надзеі”. Усё падабалася, толькі вось малых дзяцей не было з кім пакінуць. Бацькоў, якія б маглі дапамагчы, няма. На кірмашы нічога для сябе не падабрала. Там больш для мужчын працу прапануюць. А ў гандаль я і сама не хачу.

Аксана ЯРАШОНАК.




Ад 1 студзеня змяніліся памеры вылікаў па падаходным падатку. Фота teleskop-by.org.

# Ад чаго залежыць памер вашага падаходнага падатку

МАЛАДЗЕЧНА

**Памеры падатковых вылікаў па падаходным падатку з фізічных асоб на 2018 год устаноўленыя згодна з дадаткам №10 да Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь "Аб падаткаабкладанні" №29 ад 25.01.2018 і дзейнічаюць ад 1 студзеня 2018.**

Паводле гэтага дакумента існуе шэсць відаў вылікаў. З іх – пяць стандартных. Гэта

– падатковы вылік, усталяваны ў падпунктах 1.1 пункта 1 артыкула 164 Падатковага кодэкса. Яго памер – 102 рублі на месяц пры атрыманні даходу, які падлягае падаткаабкладанню, у суме, што не перавышае 620 рублёў на месяц;

– падатковы вылік, усталяваны ў падпунктах 1.2 пункта 1 артыкула 164 Падатковага кодэкса, у памеры 30 рублёў на месяц на дзіця да 18 гадоў і (або) кожнага ўтрыманца;

– падатковы вылік, усталяваны ў частках 5 і 6 падпункта 1.2 пункта 1 і абзацы 2 пункта 2 артыкула 164 Падатковага кодэкса, удаве (удаўцу), адзінокім бацькам, прыёмным бацькам, апекуну ці папячыцелю. Яго памер – 57 рублёў на месяц на кожнае дзіця да 18 гадоў і (або) кожнага ўтрыманца;

– падатковы вылік, усталяваны ў частцы 7 падпункта 1.2. пункта 1 і абзацы 2 пункта 2 артыкула 164. Гэты вылік даюць бацькам, што маюць двух і больш дзяцей ва ўзросце да 18 гадоў або дзяцей-інвалідаў ва ўзросце да 18 гадоў. Складае 57 рублёў на кожнае дзіця ў месяц;

– падатковы вылік, усталяваны ў падпункце 1.3 пункта 1 і абзацы 3 пункта 2 артыкула 164. Гэты вылік – для людзей, якія захварэлі і перанеслі прамянёвую хваробу, выкліканую наступствамі катастрофы на ЧАЭС, іншых радыяцыйных аварый; для людзей, якія ліквідавалі наступствы катастрофы на ЧАЭС у 1986 – 1987 гадах у зоне эвакуацыі (адчужэння), Герояў Сацыялістычнай Працы, Герояў Савецкага Саюза, Герояў Беларусі, поўных кавалераў ордэнаў Славы, Працоўнай Славы, Айчыны, удзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны, інвалідаў I і II груп незалежна ад прычын інваліднасці, інвалідаў з дзяцінства, дзяцей-інвалідаў ва ўзросце да 18 гадоў, у памеры 144 рублі ў месяц.

Ёсць адзін сацыяльны вылік. Ён усталяваны ў падпункце 1.2 пункта 1 артыкула 165 Падатковага кодэкса, у суме, якая не перавышае 3 тысяч 164 беларускіх рублёў на працягу падатковага перыяду і выплачанай плацельшчыкам страхавым арганізацыям Рэспублікі Беларусь у якасці страхавых унёскаў па дагаворах добраахвотнага страхавання жыцця і дадатковай пенсіі, зняволеным на тэрмін не менш за тры гады, а таксама па дагаворах добраахвотнага страхавання медыцынскіх выдаткаў.

**Інспекцыя МПЗ па Маладзечанскім раёне.**

## У Ашмянах правялі пасяджэнне рады па развіцці прадпрымальніцтва

АШМЯНЫ

Старшыня Ашмянскага райвыканкама **Міраслаў Сарасек** сустрэўся з прадпрымальнікамі Ашмяншчыны.

У сваім выступленні старшыня звярнуў увагу на тое, што фармат дыялогу мясцовай улады і бізнес-супольнасці важны і актуальны. На думку Міраслава Сарасека, адна з асноўных задач – узмацненне ролі малога і сярэдняга бізнесу ў раёне, індывідуальных прадпрымальнікаў і прыцягненне інвестыцый.

У апошнія гады на тэрыторыі Ашмянскага, Астравецкага і Смаргонскага раёнаў праводзяць рэгіянальную выставакірмаш "Паўночны вектар Гродзеншчыны" і Міжнародны эканамічны форум "Новыя магчымасці і перспектывы супрацоўніцтва".

Будаўніцтва сэрвіснай зоны пункту пропуску "Каменны Лог" – адзін з найважнейшых інвестыцыйных праектаў, што рэалізуецца на Ашмяншчыне. Паабяцалі, што бізнесу ў раёне прапануюць пляцоўкі для развіцця прамысловай вытворчасці, турызму, фермерскай гаспадаркі.

**Паводле сайта Ашмянскага райвыканкама.**

## Астравецкая бальніца – адна з лепшых на Гродзеншчыне

АСТРАВЕЦ

8 лютага на выніковай калегіі галоўнага ўпраўлення аховы здароўя Гродзенскага аблвыканкама падвялі вынікі працы за 2017 год.

Адным з пераможцаў штогадовага агляду-конкурсу якасці і культуры медабслугоўвання насельніцтва стала Астравецкая цэнтральная раённая бальніца. Яна атрымала Дыплом трэцяй ступені.

**Аддзел інфармацыі.**

## Даследуюць вадаёмы ў парку "Нарачанскі"

МЯДЗЕЛ

У парку "Нарачанскі" пачалі даследаваць вадаёмы Балдукскай групы азёр. Лягчэй гэта рабіць з фарміраваннем устойлівага лёду.

Першымі аб'ектамі даследавання сталі Балдук, Імшарнік, Ільгінія, Караснік. Даследуюць расліннасць і якасць вады.

**Паводле narochpark.by.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 15.02 | 22.02 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 1,9901 | **1,9623** |
| Еўра | 2,4618 | **2,4163** |
| Злоты, 10 | 5,8925 | **5,8215** |
| Расійскі рубель, 100 | 3,4560 | **3,4624** |
| Грыўня, 100 | 7,4564 | **7,2685** |
| Курсы ў "Банку БелВЭБ" | 14.02 | 21.02 |
| Еўра | 2.4500/2.4630 | **2.4100/2.4250** |
| Долар ЗША | 1.9840/1.9940 | **1.9580/1.9650** |

ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 14.02 | 21.02 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса "Мядовая", 1 кг | 16,85 | **16,95** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 2,98 | **2,98** |
| Сасіскі "Малочныя", 1 кг | 7,13 | **6,85** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 9,00 | **8,50** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 4,20 | **4,30** |
| Селядзец, 1 кг | 3,30 | **2,90** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 14,80 | **14,80** |
| Карп "Элітны" | 4,70 | - |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,30 | **1,50** |
| Рыс, 0,8 кг | 1,45 | **1,50** |
| Алей "Залатая семачка", 1 л | 3,00 | **3,00** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 4,80 | **4,80** |
| Маянэз, 400 г | 2,15 | **2,15** |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,80 | **1,90** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 1,60 | **1,50** |
| Агуркі, 1 кг | 4,80 | **4,99** |
| Баклажаны, 1 кг | 7,90 | **7,90** |
| Бульба, 1 кг | 0,60 | **0,60** |
| Буракі, 1 кг | 0,50 | **0,55** |
| Капуста, 1 кг | 0,45 | **0,45** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 1,30 | **1,20** |
| Морква, 1 кг | 0,65 | **0,65** |
| Памідоры, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Перац, 1 кг | 4,95 | **6,70** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 0,65 | **0,65** |
| Часнок, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Апельсіны, 1 кг | 2,80 | **2,80** |
| Бананы, 1 кг | 2,50 | **2,50** |
| Вінаград, 1 кг | 4,80 | **5,50** |
| Гранаты, 1 кг | 3,70 | **3,90** |
| Грушы "Канферэнцыя", 1 кг | 3,20 | **3,50** |
| Грэйпфруты, 1 кг | 3,40 | **3,40** |
|Ківі, 1 кг | 3,50 | **4,50** |
| Лімоны, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Мандарыны, 1 кг | 2,95 | **3,30** |
| Хурма, 1 кг | 3,99 | **3,95** |
| Яблыкі "Голдэн", 1 кг | 1,89 | **1,95** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 1,80 | - |
| Масла, 1 кг | 14,00 | - |
| Мёд, 0,5 л | 7,50 | - |
| Сала, 1 кг | 11,00 | **11,00** |
| Тварог, 1 кг | 6,00 | - |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,50 | - |

НАВІНЫ

## Змяніліся тэрміны тэхагляду маламерных суднаў

У мінулым годзе ва Указ, што рэгулюе перыядычнасць тэхнічнага агляду, унеслі змены.

Для плыўсродкаў, якім менш за 10 гадоў, тэхнічны агляд будуць праводзіць радзей: для маламерных вяслярных суднаў – раз на пяць гадоў; для маторных – раз на тры гады; для аквабайкаў і іншых маламерных суднаў – кожныя два гады.

Аднак змены кранулі не ўсё. Суднам, якім больш за 10 гадоў, тэхнічны агляд па-ранейшаму патрабуецца штогод. Як і раней, для кіравання прагулачным маторным суднам з рухавіком магутнасцю звыш 3,8 КВТ трэба мець пасведчанне, якое выдаюць толькі пасля здачы экзамену.

Летась у краіне пры эксплуатацыі маламерных суднаў загінулі дзевяць чалавек, што праігнаравалі правілы бяспекі.

**Андрэй МОНІТ,**
дзяржінспектар маладзечанскага ўчастка Дзяржаўнай інспекцыі па маламерных суднах.

## У Астравецкім раёне машына збіла пенсіянерку

АСТРАВЕЦ

Здарэнне адбылося раніцай у нядзелю, 18 лютага.

Кіроўца "Мазды" ехаў з боку Міхалішак на Альхоўку. Заўважыў пешахода, жанчыну без святлоадбівальнага элемента, за метраў 100.

Сталая жанчына ішла ў сустрэчным накірунку і вырашыла перайсці дарогу.

Ёй падалося, што машына далёка. Вадзіцель хацеў аб'ехаць жанчыну па сустрэчцы, аднак зачапіў яе люстэркам. "Мазда" спынілася ў левым кювеце і ледзь не стукнулася ў дрэва.

Жанчыну з пераломам нагі шпіталізавалі.

**ДАІ Гродзенскай вобласці.**

## Затрымалі ўгнаны аўтамабіль

МАЛАДЗЕЧНА

10 лютага каля 22 гадзін 40 хвілін у апаратыўна-дзяжурную службу Маладзечанскага РАУС паведамілі пра тое, што невядомы з дваровай тэрыторыі аднаго з дамоў па вуліцы Драздовіча ўгнаў аўтамабіль.

Інфармацыю перадалі дзяжурным, у тым ліку супрацоўнікам групы затрымання Маладзечанскага аддзела Дэпартамента аховы старшаму сяржанту міліцыі **Ігару Журыху** і сяржанту міліцыі **Уладзіславу Грыцкевічу**. Яны выехалі ў магчымым кірунку, па якім мог паехаць парушальнік.

Праз некаторы час міліцыянеры звярнулі ўвагу на машыну, падобную па апісанні з угнанай. Пераканаўшыся ў тым, што гэта тое аўто, Ігар і Уладзіслаў пачалі яго пераследаваць.

Кіроўца пераследаванага аўтамабіля спыніўся. Яго затрымалі.

Угоншчыкам быў беспрацоўны жыхар адной з вёсак раёна, які раней быў асуджаны за аналагічнае злачынства.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**

## Міліцыя знайшла самагоншчыкаў з дапамогай беспілотніка

МАЛАДЗЕЧНА

Буйную вытворчасць самагонкі ліквідавалі 14 лютага праваахоўнікі ў Маладзечанскім раёне. Знайшлі 390 літраў гатовага прадукту і больш за чатыры тоны брагі.

– Супрацоўнікі Маладзечанскага РАУС і РАНС у рамках супольных мерапрыемстваў упершыню ў вобласці скарысталі квадракоптар, – адзначыў намеснік начальніка ўпраўлення аховы правапарадку і прафілактыкі УУС Мінскага аблвыканкама падпалкоўнік міліцыі **Андрэй Амбражэй**.

Выкарыстанне дрона, які быў запушчаны над вёскай Насілава, не толькі дазволіла знайсці самагонны апарат, але і затрымаць непрацоўнага мясцовага жыхара з доказамі злачынства.

– З вышыні птушынага палёту выразна былі бачныя не толькі дым, дровы ў машыне, але і гатовая прадукцыя ў пластыкавых каністрах пры ўваходзе ў падпольны цэх, – расказаў Андрэй Амбражэй.

Устанавілі, што алкаголь выраблялі не для асабістых патрэб, тым больш, што раней уладальнік ужо прыцягваўся да адказнасці за самагонаварэнне.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**



# Паштальёны прыехалі, а дома – няма

## Вялікі пажар адбыўся ў суботу на Мядзельшчыне

МЯДЗЕЛ

**Каля 10 гадзін раніцы 17 лютага ў вёску Бонда Сватკаўскага сельсавета, што на Мядзельшчыне, прыехала паштовая машына.**

Паштальёны ўбачылі, што на ранейшым месцы няма ні дома, ні хлява, ні гаража. Усё згарэла. Паштальёны патэлефанавалі ў Мядзельскі ГРАНС.

Калі выратавальнікі прыехалі, яны ўбачылі, што жылы дом згарэў цалкам. Агонь таксама знішчыў хлеў, што быў прыбудаваны да дома. Згарэлі жалезны гараж, які стаяў на адлегласці каля сямі метраў ад дома, і машына ВАЗ, што знаходзілася ў ім.

Па словах **Ірыны Карапецян**, інспектара групы прапаганды і навучання Мядзельскага ГРАНС, Бонда – гэта амаль хутар. Ва ўсе дамы гаспадары прыязджаюць толькі летам. Бліжэйшая вёска – на адлегласці больш за тры кіламетры.


Фота забяспечана Ірынай КАРАПЕЦЯН.

На гэтым месцы стаяў дом.

Выратавальнікам стала вядома, што падчас пажару ў доме былі 33-гадовы ўнук гаспадыні-пенсіянеркі і яго жонка.

Мужчына моцна пацярпеў ад агню: у яго апёкі на твары і спіне. Апечана каля 30 працэнтаў цела. Па словах Ірыны Карапецян, выратавальнікі пакуль не могуць пагаварыць з ім. Мужчына знаходзіцца ў рэанімацыі.

Разбіраючы смецце пасля пажару, каля 11:00 выратавальнікі знайшлі труп жанчыны – 33-гадовай жонкі пацярпелага мужчыны.

Цяпер следчыя праводзяць праверку. Прычыну пажару высвятляюць.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Маладзечанец запрасіў дзяўчыну ў госці і скраў у яе грошы

МАЛАДЗЕЧНА

Маладзечанец прыйшоў у госці да сябра ў адзін з інтэрнатаў па вуліцы Скарыны.

Маладыя людзі выпівалі, а пасля выйшлі на калідор.

Там пазнаёміліся з дзяўчынай з Брэсцкай вобласці, што прыехала да сваякоў. Новую знаёмую запрасілі да сябе.

28-гадовы госць заўважыў, што ў дзяўчыны у чахле ад мабільніка ляжаць грошы – 500 долараў. Малады чалавек знайшоў магчымасць і выцягнуў іх. Трыста долараў памяняў і патраціў.

Назаўтра дзяўчына заўважыла, што грошы зніклі, і пайшла разбірацца ў пакой, дзе гасцявала. У пакоі знайшлі толькі дзвесце долараў, якія, па словах старшага следчага Маладзечанскага РАСК **Юрыя Багушэвіча**, падкінуў фігурант.

15 лютага супраць маладога чалавека завялі крымінальную справу.

## Верхавіна дрэва звалілася на галаву, калі рабочы зняў каску

ВІЛЕЙКА

12 лютага ў абедзенны час супрацоўнік Вілейскага доследнага лясгаса атрымаў чэрапна-мазгавую траўму, паведамілі ў Вілейскім РАСК.

Ля вёскі Рэчкі пілавалі лес. На нейкі час работнік зняў каску. У гэты момант абламалася верхавіна дрэва і звалілася яму на галаву.

Мужчыну з чэрапна-мазгавой траўмай адвезлі ў бальніцу.

## Ля Дзякшнянаў хлопцы хацелі скрасці акумулятары з фуры

МАЛАДЗЕЧНА

Ноччу 9 лютага два хлопцы з Мінскага раёна вырашылі скрасці акумулятары з фуры "Вольва", што стаяла ля вёскі Дзякшняны, распавёў "Рэгіянальнай газеце" старшы следчы Маладзечанскага РАСК **Юры Багушэвіч**.

19-гадовы малады чалавек і яго 28-гадовы сябар ужо пачалі адкручваць акумулятары, але ў гэты час іх заўважыў мясцовы жыхар.

Мужчына патэлефанаваў у міліцыю. Хлопцы кінулі акумулятары і ўцяклі. Але на месцы здарэння яны пакінулі машыну, на якой прыехалі.

Па ёй міліцыянеры ўстанавілі гаспадара. Машына належала старэйшаму фігуранту. Хлопцаў затрымалі, аўтамабіль змясцілі на штрафстаянку.

## Дзень закаханых двое маладзечанцаў "адзначылі" крадзяжом ровара і бензабака

МАЛАДЗЕЧНА

14 лютага 40-гадовы і 27-гадовы непрацуючыя маладзечанцы залезлі ў дом на вуліцы Велікасельскай і вынеслі адтуль рэчы.

Па словах старшага следчага Маладзечанскага РАСК Юрыя Багушэвіча, мужчыны скралі з дома, дзе ніхто не жыве, ровар, алюміневы бензабак і яшчэ некалькі рэчаў з алюмінію.

Страты склалі 901 рубель.

Частку рэчаў у мужчын канфіскавалі. Па словах старшага следчага, фігуранты не першы раз залазілі ў гэты дом. Цяпер іх заключылі пад варту.

## Скраў у аднавяскоўца электрадрыль, шрубавёрт, бензапілу

ВІЛЕЙКА

Каля дзвюх гадзін ночы жыхар Даўгінава зайшоў у незачынены гараж аднавяскоўца і скраў адтуль інструменты, распавёў начальнік Вілейскага РАСК **Яўген Мягкоў**.

Здарэнне адбылося 11 лютага. А 17 лютага следчыя ўзбудзілі крымінальную справу.

35-гадовы жыхар Даўгінава, які нідзе не працуе, вынес з гаража электрадрыль, шрубавёрт, шліфмашынку і бензапілу.

Матэрыяльныя страты склалі 341 рубель. Падазронага затрымалі.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# “Рамбыттэхніка”: калі працаваць, дык рабіць гэта ўльтрасучасна




Карына Абрамян – закройшчыца. Валянціна Лях – краўчыха.



Алег Іванчыкаў – слесар па зборцы металічных канструкцый.



Данута Шалаеўская – майстар па рамонце абутку.

**Таварыства ажыццяўляе наступныя віды дзейнасці:**

- рамонт і выраб ювелірных вырабаў з каштоўных металаў;
- усе віды цырульніцкіх паслуг;
- манікюр, педыкюр;
- перманентны макіяж;
- шугарынг;
- паслугі хімчысткі;
- рамонт і пашыў швейных вырабаў;
- рамонт абутку;
- платны і гарантыйны рамонт бытавых машын і прыбораў;
- рамонт халадзільнага і тэхналагічнага абсталявання;
- паслугі пракату;
- рэалізацыя і вытворчасць рытуальнай прадукцыі;
- арэнда офісных і вытворчых памяшканняў;
- выраб металічных вырабаў (канструкцый);
- паслугі шынамантажу;
- паслугі СТА;
- паслугі крамы аўтазапчастак;
- фотапаслугі.

**“Завод Рамбыттэхніка” перажывае другое нараджэнне. Адкрываюцца шынамантаж і пральня, абнаўляюцца цырульні і хімчыстка. І ўжо шмат гадоў “Рамбыттэхніка” сярод лепшых у ювелірнай працы, пашыву пасцельнай бялізны і рамонце складанай бытавой тэхнікі.**

Пра поспехі, дасягненні і планы на будучае мы пагутарылі з дырэктарам прадпрыемства **Арцёмам Русакевічам**.

Арцём Русакевіч дырэктар малады. У тым сэнсе, што ён працуе ўсяго адзін год, але за гэты час ім зроблена ўжо шмат.

## Выбар металаканструкцый. Будзем рабіць трэнажоры

Не так даўно на “Рамбыттэхніцы” быў створаны цэх па вырабе металічных канструкцый.

– А пачалося ўсё з крызісу на расійскім рынку, – расказвае Арцём Русакевіч. – Да гэтага ў нас на заводзе працаваў цэх па вырабе вогнетушыцеляў. Рабіліся яны пераважна на Расію, але калі падскочыў курс расійскага рубля, вытворцы вогнетушыцеляў сышлі. У нас вызвалілася плошча. Сталі думаць, што б такога зрабіць на гэтым месцы. Стварылі цэх, узялі на працу шэсць чалавек.

> Калектыў “Рамбыттэхнікі” – 120 чалавек.

Цэх займаецца вырабам стрэлачных пераводаў для чыгункі. “Рамбыттэхніка” (адзіны ў РБ вытворца, які мае сертыфікат прадукцыі ўласнай вытворчасці, выдадзены гандлёва-прамысловай палатай РБ), стойлавага абсталявання, металаканструкцый будынкаў і збудаванняў.

Арцём Русакевіч кажа, што цяпер задумаліся і над вырабам антывандальных трэнажораў.

– Мы зразумелі, што такая прадукцыя карыстаецца попытам. І ў дварах, і ў парках нашага горада плануецца ўсталяваць такія трэнажоры. Чаму б нам не быць адзінымі мясцовымі вытворцамі, хто можа іх зрабіць?

## Шынамантаж і пескаструменная апрацоўка дэталяў

Запусціць цэх па пескаструменнай апрацоўцы дэталяў “Рамбыттэхніцы” падказаў сам лёс.

– Адрамантавалі абсталяванне, якое раней выкарыстоўвалася для апрацоўкі металу для вогнетушыцеляў і іх афарбоўкі, і прыстасавалі для апрацоўкі і афарбоўкі колавых дыскаў, а гэтак жа іншых металічных вырабаў

....Паехалі людзі. Стала няздручна. Як прыехаць пафарбаваць дыскі і “разуць” машыну?

– Сталі думаць далей. Прыдумалі, што можам зрабіць шынамантаж. Знайшлі патрэбнае абсталяванне ў Капылі, якое там не выкарыстоўвалася. Перадалі з аднаго балансу на другі і запрацавалі. Восенню ў нас тут былі чэргі, бо, каб знайсці кліентаў, мы зрабілі цэны самымі таннымі ў горадзе.

Сталі думаць далей, як захаваць кліентаў не ў сезон замены гумы. Прыдумалі. Зрабілі СТА, дзе можна замяніць масла, фільтры, калодкі.

Дзе браць запчасткі? Адкрылі свой аўтамагазін.

Галава ў дырэктара на гэтым думаць не перастала, а стала паралельна думаць яшчэ ў адным накірунку.

## Сучасная пральня

– Пральня “Сняжынка”, якая працуе цяпер і абслугоўвае пераважна Маладзечанскую ЦРБ, безнадзейна састарэла. Таму ў бліжэйшы час, а я планую гэта зрабіць да лета, мы адкрыем сучасную пральню.

Пры гэтым, кажа Арцём Русакевіч, пральня будзе абслугоўваць не толькі юрыдычных асоб, а і прыватнікаў.

– У гараджан з’явіцца магчымасць прыехаць, закінуць капеечкі ў аўтамат, загрузіць бялізну і прыехаць ужо за чыстай.

## Цырульня з самым шырокім спектрам паслуг

Асобна варта сказаць пра сучасную цырульню “Купалінка”, што месціцца на вуліцы Янкі Купалы.

– Мы зрабілі сучасны рамонт, цяпер там можна падстрыгчыся не толькі дарослым людзям, але і маленькім дзеткам. Мы паставілі спецыяльнае дзіцячае крэсла, над сталом майстра павесілі экран, на якім падчас стрыжкі будуць паказвацца мульцікі вашаму маленькаму гарэзу, а таксама ў нашых дзяўчат у кішэні заўсёды прыхаваная цукерка для самых патрабавальных маленькіх кліентаў.

> По кароткім нумары **167** вы можаце замовіць майстра па рамонце бытавой тэхнікі.

А ў “Style-цэнтры” на вуліцы Прытыцкага маладзечанскія модніцы могуць скарыстацца паслугамі шугарынгу і перманентнага макіяжу.

– “Style-цэнтр” – самы буйны на сёння аб’ект бытавога абслугоўвання. Тут можна зрабіць стрыжку і манікюр з педыкюрам, пафарбаваць валасы, вейкі і бровы. Тут можна зрабіць фота на дакументы, ксеракопію дакументаў, парамантаваць абутак. А таксама купіць камплект бялізны, якую шыюць нашы спецыялісты.

Швейная майстэрня завода “Рамбыттэхнікі” – гэта тры прыгажуні, якія змогуць вам пашыць, што заўгодна. З яркіх, якасных тканін тры майстрыхі швейнага цэха шыюць пасцельную бялізну, коўдры, падушкі, ручнікі.

## Ювелірная майстэрня – брэнд Маладзечна

Візітная картка завода, канешне ж, – гэта ювелірная майстэрня, у якой працуюць сем ювеліраў.

– Мы – манапалісты на гэтым рынку ў Мінскай вобласці. У нас адзіных ёсць ліцэнзія на выраб ювелірнай прадукцыі. Нашы ювелірныя ўчасткі працуюць у Слуцку, Барысаве, Салігорску і Астраўцы. А з гэтага года ў планах трапіць у Мінск.

Арцём Русакевіч увесь час на тэлефоне: трэба размаўляць, дагаворвацца і зноў бегчы. У планах яшчэ шмат: і аднаўленне хімчысткі, і жаданне паставіць на ногі сельскія комплексныя прыёмныя пункты, якіх цяпер на балансе “Рамбыттэхнікі ” сем, і рамонт у “Доме быту”, што па вуліцы Будаўнікоў.

Значыць, у горада будуць новыя працоўныя месцы. А паслугі – зручнымі, блізкімі і недарагімі.

УНП 600153225

УНП 600095711




# Гандлёва-эканамічны каледж у Маладзечне: хто хоча поспеху, ідзе да нас

**Вы калі-небудзь чулі, каб педагогі прызнавалі, што вучоба ў традыцыйным разуменні не стаіць для маладых людзей на першым месцы? І што веды, якія транслююць педагогі, пастаянна патрабуюць абнаўлення? Выкладчыкі, якія гэта разумеюць, даюць навучэнцам не проста “корачкі”, а рэальную магчымасць паспяхова ўладкавацца ў жыцці адразу пасля выпуску.**

Каб абітурыенты змаглі ўзважана прыняць самае важнае рашэнне ў жыцці, мы разбіраемся з самымі актуальнымі пытаннямі, якія перад імі стаяць.

**Ці варта выбіраць распаўсюджаную прафесію?**

У каледжы рыхтуюць па наступных спецыяльнасцях – “Бухгалтарскі ўлік, аналіз і кантроль”, “Эканоміка і арганізацыя вытворчасці”, “Правазнаўства” (юрысты), “Таваразнаўства”, “Праграмнае забеспячэнне інфармацыйных тэхналогій”, эканамістаў па спецыяльнасці “Камерцыйная дзейнасць”. У верасні пачнуць вучобу студэнты новага курса – “Аперацыйная дзейнасць лагістыкі”.

Баяцца перанасычанасці рынку названымі спецыялістамі зусім не трэба, упэўненая намеснік дырэктара па вучэбнай рабоце **Эліна Багнюк**:

– Добры эканаміст, бухгалтар, юрыст, не гаворачы пра праграміста, – асноўная апора любога кіраўніка. Яны заўсёды будуць пры справе і ў цане. А гандлёвыя сеткі, што растуць як грыбы, як ніколі, патрабуюць маладых таваразнаўцаў.

**Што, калі па спецыяльнасці вакансій не акажацца?**

Адна з фішак каледжа – даць не толькі асноўную спецыяльнасць, але і рабочую прафесію. Праграмісты з такой прафесіяй атрымліваюць пасведчанне “Аператар ЭВМ”, якое дазваляе працаўладкоўвацца. Яны ад трэцяга курса пачынаюць падзарабляць, для гэтага ім цалкам хапае ведаў.

У камерсантаў і таваразнаўцаў па такой жа схеме ёсць магчымасць працаваць прадаўцамі і касірамі, лагісты атрымаюць прафесію кладаўшчыка. Мець рабочую прафесію важна і для таго, каб атрымаць больш манеўраў для працаўладкавання і каб лепш разумець галіну.

**Усе шукаюць спецыялістаў з досведам. Дзе іх узяць?**

На самой справе большасці наймальнікам важныя не 3 ці 5 год вашага стажу, яны проста не хочуць губляць час, пакуль будуць вучыць учарашняга выпускніка.

Менавіта таму гандлёва-эканамічны каледж робіць асаблівы ўхіл на практычнае навучанне. Для яго высокай якасці ўстанова не скупіцца на сучаснае абсталяванне. Напрыклад, закупілі касавае абсталяванне – выпускнік гатовы працаваць у краме адразу пасля каледжа.

Ёсць некалькі класаў з камп’ютарамі, для мабільнасці каледж забяспечаны ноўтбукамі і планшэтамі, каб не абмяжоўваць навучэнцаў і педагогаў.

**Ці дапамагае каледж знайсці працу?**

Безумоўна, прычым усім. Тых, хто вучыцца за кошт кааперацыі, размяркоўваюць у годныя месцы. Платнікам прапануюць выгадныя варыянты, а яны могуць выбіраць, ці пагаджацца.

**Педагогі падкрэсліваюць, што за некалькі год змяніліся патрабаванні наймальніка. Просяць не толькі “талковага”, але і камунікабельнага. Для распрацоўкі камунікатыўных якасцяў каледж займаецца і развіццём творчасці навучэнцаў, іх умення выяўляць сябе, будаваць дзелавыя адносіны, прэзентаваць лепшыя бакі і размаўляць.**

З выпускнікоў мінулага года ўсе атрымалі працу, акрамя тых, што пайшлі ва ўніверсітэт. Дзеляцца, што вучацца па канспектах каледжа. Больш зразумелымі, і ў той жа час інфармацыі хапае цалкам.

**Наколькі зручнай і камфортнай будзе вучоба?**

Каледж павінны вучыць так, каб выпускнікі арыентаваліся ў самых сучасных асаблівасцях прафесіі. Таму самі педагогі павінны валодаць перспектыўнымі тэхналогіямі. Адным з вынікаў такога падыходу стала ўкараненне платформы “1С: Прадпрыемства 8.3”.

Сістэма мае два блокі: для адміністравання і навучання. У першай частцы змяшчаецца абсалютна ўсё, што трэба педагогам. Уся інфармацыя пра нарматывы, праграмы, вучэбны матэрыял сістэматызавана і ў адным месцы.

У блоку для навучэнцаў усё зручна да непрыстойнасці. Маладыя людзі бачаць адразу ўсе праграмы спецыяльнасці, якія прадметы будуць вывучаць, якія тэмы.

Больш за тое, распісаныя матэрыялы занятkaў, прэзентацыі, лабараторныя, падказкі, дзе ўзяць дадатковую інфармацыю, тэставыя заданні для праверкі.

Заходзіць у кабінет платформы можна з любой прылады – дамашняга планшэта ці нават смартфона, маючы адмысловы код, і прагартаць інфармацыю ў кавярні.

Многія арганізацыі працуюць яшчэ ў сёмай версіі 1С, а навучэнцы каледжа навучаныя наступнай версіі, якая будзе актуальнай і адразу пасля выпуску, і яшчэ шмат год.

**Ці ёсць прыклады паспяховых выпускнікоў?**

Большасць выпускнікоў працуюць па спецыяльнасці ў арганізацыях ці адкрываюць бізнес, а часам у корані мяняюць выбар, таму што ў каледжы знайшлі сапраўднае прызванне.

Сярод гонару ўстановы – сябра пастаяннай камісіі па бюджэце і фінансах Палаты прадстаўнікоў **Людміла Ніжэвіч**, дарадца па гандлёва-эканамічных пытаннях пасольства Беларусі ў Расіі **Пётр Шукель** і шмат іншых.

Цяперашні начальнік Маладзечанскага РАУС і дэпутат абласнога Савета **Валянцін Асіповіч** – выпускнік па спецыяльнасці “Бухгалтарскі ўлік, аналіз і кантроль”. Як і **Алег Чараповіч**, цяперашні дырэктар каледжа.

**Што гавораць пра каледж цяперашнія навучэнцы?**

Адна з самых гучных падзей апошняга часу – трыумфальная перамога маладзечанскай каманды ў рэспубліканскім конкурсе развіцця прадпрымальнасці ў моладзі “Лесвіца поспеху”. З сямі намінацый “нашы” перамаглі ў пяці, а ў дадатак заваявалі Гран-пры. Пра конкурс расказалі ўдзельніцы каманды **Віталіна Цвяткова** і **Ганна Савіцкая**.

Камандзе трэба было прадумаць прадукт, які пасля на конкурсе абаранялі з усіх бакоў. Маладзечанцы прыдумалі комплексны мабільны дадатак для падарожжаў па Беларусі. Рэкламавалі яго, удзельнічалі ў эканамічных гульнях, задавалі каверзныя пытанні, паказвалі прэзентацыйны ролік.

Дзяўчаты дзеляцца, што гэта фантастычны досвед, які адназначна дапаможа ў будучыні. Яны збіраюцца паступаць ва ўніверсітэт, а пасля працаваць у банкаўскай сферы.

Нямала выпускнікоў ідзе далей па лесвіцы Міністэрства ўнутраных спраў. Некаторыя з іх уступаюць у моладзевы атрад аховы правапарадку. **Ягор Іваненка** і **Вадзім Уколаў** паступілі ў Маладзечна на юрыстаў, калі не хапіла балаў для ўніверсітэта. Яны разам з міліцыянерамі ўдзельнічаюць у рэйдах. Такі досвед дапамагае канчаткова вызначыцца з прафесіяй.

**А што для душы?**

У каледжы шмат працуюць з рознабаковым развіццём навучэнцаў. Восем спартыўных секцый, мастацкія гурткі і заняткі па інтарэсах. Акцёры Мінскага абласнога драмтэатра **Алена Рахмангулава** і **Сяргей Карзей** – адны з выкладчыкаў мастацкіх гурткоў. Для стымуляцыі навучэнцаў пастаянна ладзяць конкурсы і спаборніцтвы.

**Ці далёка дабірацца ад інтэрната?**

Вельмі зручна размешчаны інтэрнат для іншагародніх. Ад корпуса да яго вядзе калідор. Навучэнцы вельмі цэняць, што ўсё сканцэнтравана ў адным месцы, размешчаным у цэнтры Маладзечна.



# Скандынавія: прывозяць смецце з іншых краін, п'юць ваду з-пад крана і ядуць смярдзючую рыбу

Від з атэляў у Нарвегіі проста не перадаць словамі. Фота visitnorway.com.

*Заканчэнне.*
*Пачатак у №7.*

**Летась у жніўні выпала падарожнічаць па Скандынавіі – Даніі, Нарвегіі і Швецыі. Вандроўка натхніла мяне падзяліцца ўражаннямі.**

## Данія

Раўнінная краіна, мяккі клімат. Вырошчваюць шмат збожжа. Вядучая краіна па вытворчасці свініны (85% ідзе на экспарт). Развітае рыбалоўства. Выпускаюць высокатэхналагічнае медыцынскае і халадзільнае абсталяванне. Лідары ў суднабудаванні. Той жа расійскі алігарх Абрамовіч заказваў у Даніі сваю знакамітую яхту.

Шмат здабываюць нафты, якую экспартуюць у Швецыю і Галандыю, а таксама газу, які экспартуюць у Германію і Галандыю. Актыўна развіваюць альтэрнатыўную энергетыку, яе доля ўжо перавысіла 60%. Выкарыстоўваюць сілу ветру, марскі прыбой, смецце.

**Смецце нават імпартуюць з Нарвегіі.**

Сталіца – Капенгаген, старажытны прыгожы горад, увесь у каналах і пратоках. Самы папулярны сродак перамяшчэння – ровар. Шмат турыстаў. Напярэдадні майго візіту ў горадзе праходзіў гей-парад. Кажуць, сабралася каля 300 тысяч чалавек з розных краін. Засталося шмат смецця.

Цікавая кухня Даніі. Асноўная "страва", а часцей за ўсё і адзіная, – бутэрброд. Прычым цэны за яго даходзяць да 200 еўра і вышэй. Варыянтаў гэтай стравы процьма.

Крыху здзівіла вялікая колькасць сабак, якія гулялі разам з гаспадарамі. Як нам растлумачылі, сабакі абсалютна не агрэсіўныя, бо праходзяць курсы зняцця агрэсіі ў псіхолагаў для сабак.

## Нарвегія

Гарыстая краіна з мноствам горных рэк, азёр, вадаспадаў. Свайго збожжа вельмі мала, пераважна імпартуюць. Разводзяць шмат кароў, коз, авечак. На любым хоць трохі раўнінным месцы стаяць жылыя домікі з міні-фермамі.

Дзяржава іх сур'ёзна падтрымлівае. Датуе, напрыклад, на карову 1000 еўра на год. Нарвежцы вынайшлі своеасаблівы карычневы сыр з сумесі каровінага і казінага малака з выкарыстаннем страўнікавага соку. Мне не спадабаўся.

Нарвегія – вядучая краіна па рыбалоўстве і гадоўлі рыбы. Сусветны пастаўшчык чырвонай рыбы. Валодае найбуйнейшымі ў Еўропе запасамі нафты і газу. Вядучы вытворца нафтагазавага абсталявання. Ёсць радовішчы металаў, угнаенняў. Шмат лесу – пастаўшчыкі цэлюлозы. Займаюцца суднабудаваннем.

Сталіца – Осла, утульны горад, але якіх-небудзь славутасцяў мала. Адчуваецца "правінцыйнасць" пры кіраванні Швецыі. Мабыць, самая вядомая – прыгарад Хольменколен. Найбуйнейшы спартыўны цэнтр для правядзення любых спаборніцтваў зімовых відаў спорту, у тым ліку і алімпіяд. Лыжы для нарвежцаў – своеасаблівы культ.

**Нарвежцы вельмі ганарацца якасцю вады. Аднойчы ў кафэ, заўважыў, што яны не бяруць гарбату, каву, іншыя напоі. Каля крана стаяць чыстыя шклянкі, і яны наліваюць водаправодную ваду.**

Больш за ўсё спадабалася нарвежская прырода. Па Нарвегіі праехаў больш за 1000 км па добрых дарогах са мноствам эстакад і тунэляў. Такую прыгажосць я яшчэ не бачыў. Гарыстая мясцовасць прарэзаная рэкамі, якія пераходзяць у азёры. Больш спадзістыя горы пакрытыя лесам, з абрывістых сцякае мноства вадаспадаў. Траплялася шмат дзікіх жывёл – ласі, казулі. Асобная прыгажосць нарвежскіх фіёрдаў. Адну ноч начаваў у горным гатэлі. Прыгажосць ранішняй панарамы неапісальная. Толькі ў Нарвегіі ўбачыў домікі з землянымі дахамі, парослыя травой. Вельмі гармануе з навакольнай прыродай.

## Швецыя

Краіна з развітай прамысловасцю. Выпускаюць шмат якаснага абсталявання, розных машын. Вялікія запасы руды практычна ўсіх металаў. Шмат лесу, сусветны пастаўшчык мэблі. Многія займаюцца рыбалоўствам і перапрацоўкай рыбы. Дастаткова развітая сельская гаспадарка, але працуе на ўнутранае спажыванне. Нафты і газу мала – імпартуюць іх з Даніі і Нарвегіі.

Стакгольм, сталіца Швецыі, вельмі прыгожы старажытны горад – музей на ўзбярэжжы Балтыкі. Асаблівa ўразіў музей Васа, самы наведвальны. Гэта музей аднаго карабля, які быў пабудаваны ў 1628 годзе як самы буйны ў свеце ваенны карабель таго часу. Даўжыня 69, шырыня 12 метраў. 64 гарматы, экіпаж 450 чалавек. Для пабудовы высеклі больш за 1000 дубоў.

Караля Густава II не задаволіла колькасць гармат, таму дабудавалі дадатковую гарматную палубу. У выніку ўзнялі цэнтр цяжару і пры выхадзе з гавані карабель прайшоў толькі 1300 метраў, пасля чаго затануў ад хваляў. Кароль загадаў забыцца пра яго, як пра ганьбу. Карабель дасталі толькі ў 1961 годзе. Балтыйскае мора слабасалёнае, таму карабель захаваўся выдатна. Яго паднялі і восем гадоў кансервавалі, паліваючы палімерамі. Затым вакол насыпалі грунт і пабудавалі музей, прычым мачты тырчаць з даху. Ён дзівіць памерамі і пышнасцю аздаблення.

Шмат дзе бываў, але толькі ў Стакгольме ўбачыў аўтобус-амфібію з адкрытым дахам. Ён ездзіць з турыстамі па горадзе, а затым па спецыяльным спуску з'язджае ў заліў і ўжо плавае па моры.

Традыцыйна шведы ловяць і ядуць шмат рыбы. Любяць селядцы і салаку.

Яны прыдумалі нават квашаную рыбу – сюрстромінг. Гісторыя гэтай рыбы такая. Як ні дзіўна, у Швецыі мала сваёй солі і яны пастаянна набываюць яе ў Германіі. Быў перыяд у гісторыі, калі шведы з немцамі ваявалі і рэзка солі памянела.

**Тады шведы сталі для рыбы замест солі выкарыстоўваць цукар. Цяпер такая рыба стала шведскай фішкай.**

Часта шведы ладзяць пікнікі з гэтай рыбай. Справа ў тым, што сюрстромінг мае непрыемны рэзкі пах і ў памяшканнях разам з такой рыбай знаходзіцца немагчыма. Яе нават у самалётах перавозіць забаронена. Гэта рыба прадаецца ў бляшанках, на якіх напісана, калі яна будзе асабліва смярдзючай, то як яе трэба есці. На прыродзе шведы адкрываюць бляшанкі сюрстромінга, заціскаючы насы і ядуць.

**Уладзімір АЛЬФЕР,**
**Вілейка.**

# Беларускія дэпутаты абурыліся намерам польскіх нацыяналістаў правесці марш у Гайнаўцы

У беларускім парламенце абурыліся намерам польскіх нацыяналістаў правесці прарадыкальны марш у Гайнаўцы. Аб гэтым карэспандэнту БелТА заявіў старшыня пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў па міжнародных справах **Валеры Варанецкі**.

Дэпутат пракаментаваў запланаваныя ў польскай Гайнаўцы праварадыкальныя акцыі.

"У беларускім парламенце з вялікім шкадаваннем і абурэннем успрынялі інфармацыю аб намерах польскіх нацыяналістычных арганізацый правесці чарговы праварадыкальны марш у горадзе Гайнаўка, дзе кампактна пражываюць этнічныя беларусы. Мяркуючы па рэкламе маршу ў сацсетках, яго мэтай з'яўляецца гераізацыя асобных дзеячаў польскага пасляваеннага падполля, сярод якіх асаблівае месца займае ваенны злачынец і арганізатар рэпрэсій у дачыненні да праваслаўнага насельніцтва Падляшша **Рамуальд Райс**, больш вядомы пад псеўданімам Буры.

Ініцыятары гэтай сумнеўнай акцыі лічаць сваім "маральным абавязкам, каб у рэшце рэшт на гэтай чырвонай зямлі перамагла польская думка", – адзначыў парламентарый.

Валеры Варанецкі нагадаў, што Рамуальд Райс "вызначыўся" тым, што забіваў з асаблівай жорсткасцю пераважна этнічных беларусаў праваслаўнага веравызнання і спальваў цэлыя вёскі разам з іх жыхарамі.

"На сумленні гэтага завадатара бандфарміравання сотні забітых і пакалечаных мірных грамадзян, сярод якіх жанчыны, дзеці і старыя. Знішчэнне атрадам Райса беларускіх вёсак і праваслаўнага насельніцтва Падляшша Інстытут нацыянальнай памяці Польшчы прызнаў злачынствам з прыкметамі генацыду", – падкрэсліў ён.

"Правядзенне маршу і паказ дакументальнага фільма, які ўсхваляе Бурага і падобных яму вайсковых злачынцаў у Гайнаўцы – горадзе, дзе большасць насельніцтва мае беларускія карані, па сутнасці сваёй, з'яўляюцца правакацыяй, скіраванай на штучнае нагнятанне напружанасці і распальванне варожасці паміж беларусамі і палякамі, праваслаўнымі і каталікамі. І асабліва цынічна, што яна плануецца на фоне прынятага ў Польшчы закона аб крымінальным пераследзе за прапаганду так званай бандэраўскай ідэалогіі", – дадаў парламентарый.

Ён перасцярог: "Відавочна, што кінутае ў зямлю польскімі радыкаламі насенне можа прарасці і даць свае горкія плады. І тое, што правядзенне падобных мерапрыемстваў стала магчымым у краіне, грамадзяне якой самі адчулі на сабе наступствы фашызму і радыкальнага нацыяналізму, сведчыць аб прабеле ў польскай гістарычнай памяці. Падобныя акцыі не ўпісваюцца ў рамкі сучаснай культуры любой дэмакратычнай еўрапейскай дзяржавы, якая прапаведуе мір і згоду ў грамадстве і развіццё сяброўскіх адносін са сваімі суседзямі", – лічыць дэпутат.

Валеры Варанецкі выказаў надзею, што польскія парламентарыі, гэтак жа, як і разважныя грамадзяне Польшчы, змогуць даць падобным акцыям належную ацэнку і не дапусціць іх правядзення.

Паводле БелТА.

## У смаргонскім садку Масленіцу адзначылі блінамі і забавамі

СМАРГОНЬ

У садку №8 з карагодамі і гульнямі-забавамі адзначалі Масленіцу.

У нашай дашкольнай установе святкаванне Масленіцы даўно ўжо стала добрай традыцыяй. Масленіца – самае любае, вясёлае, шумнае свята.

Выхаванцы ведаюць, што знакі гэтага свята – сонца, бліны, пудзіла. Але ведаць – гэта адна справа, а ўбачыць, а яшчэ лепш паўдзельнічаць у гэтым – зусім іншае.

Музычны кіраўнік **Алена Варанкова** падрыхтавала для дзяцей цікавы сцэнар Масленіцы. На свята зазірнулі Мядзведзь, Вядзьмарка, Сонца, Дзед Мароз, якія пацешылі дзяцей сваімі жартамі, прымаўкамі, гульнямі.

Дзеці ў яркіх касцюмах круціліся ў карагодзе, забаўлялі ўсе сваё, а потым гулялі ў беларускія народныя гульні.

Свята скончылася чаяваннем са смачнымі духмянымі блінамі, якія спяклі повары дзіцячага сада.

Ірына САЛЬМАНОВІЧ, выхавальніца яслаў-садка №8 Смаргоні.



Дзмітры Дамарад цікавіцца даўніной прафесійна. Удзельнічае ў раскопках, звяртае ўвагу на дробныя дэталькі. Фота забяспечанае Дзмітрыем ДАМАРАДАМ.

# Калісьці Астравец быў марскім дном

АСТРАВЕЦ

**Так сцвярджае астраўчанін Дзмітры Дамарад, які аднойчы звярнуў увагу на тое, што на каменьчыках з бацькоўскага агарода можна пабачыць сляды ракавінак, каралаў, слімакоў.**

А потым Дзмітры стаў усур'ёз цікавіцца знаходкамі. І вось што ён даведаўся.

– Абагульняючы ўсе свае знаходкі, скажу, што іх узрост складае прыблізна 450-400 мільёнаў гадоў. Гэта перыяд верхняга ардовіка да перыяду дэвону палеазойскай эры.

Лічыцца, што ў тыя часы жыццё на планеце было сканцэнтраванае ў цёплых морах. Кантынентаў у сучасным іх выглядзе яшчэ не існавала, а тэрыторыя нашай краіны пэўны час была дном экватарыяльнага мора. Тыповымі прадстаўнікамі найбольш развітых арганізмаў былі трылабіты, марскія скарпіёны (ці ракаскарпіёны), першыя пазваночныя рыбападобныя істоты. Сярод губак і каралаў па дне поўзалі марскія зоркі і іншыя іголкаскурыя, а таксама малюскі з ракавінамі. Толькі-толькі пачыналася асваенне сушы хвашчамі і папаратнікамі. Першыя дыназаўры з'явяцца толькі праз 200 мільёнаў гадоў.

– Сам я родам з вёскі Краснае Карэліцкага раёна Гродзенскай вобласці, – працягвае Дзмітры, – калекцыю тагачасных скамянелых істотаў мы пачалі збіраць пасля таго, як шмат гадоў таму мая бабуля, капаючыся на агародзе, знайшла скамянелы кавалак трылабіта. Ён нечым нагадвае цела жука. Пасля гэтага, працуючы на агародзе, мы сталі звяртаць увагу на розныя каменьчыкі. Паступова мая маці **Зінаіда Віктараўна Дамарад** назбірала цэлую калекцыю, у якой цяпер больш за 20 экспанатаў. Фотаздымкі часткі гэтай калекцыі я размясціў у інтэрнэце.

Падобных прадстаўнікоў марскога дна на сваім агародзе можа знайсці кожны беларус, калі ён не гультай і працуе на зямлі, упэўнены Дзмітры. Для гэтага дастаткова падчас агародніцтва звяртаць увагу на розныя каменьчыкі, што трапляюцца на вочы, старанна разглядаць іх.

Вывучэнне розных трылабітаў наводзіць Дзмітрыя на філасофскія разважанні:

– Скажу вось яшчэ што. Трымаючы ў руках скамянелыя рэшткі істотаў, што жылі больш за 400 мільёнаў гадоў таму, мяне не пакідае думка: што ж будзе з намі, з сучасным чалавецтвам, праз гэткі ж час? Былі часы, калі на нашай планеце гаспадарылі трылабіты, потым – дыназаўры. І тыя, і іншыя вымерлі, хоць ніхто з іх не прыносіў столькі шкоды клімату, колькі прыносіць чалавек.

**Цяпер наша чарга быць гаспадарамі планеты, а ці пагаспадарску мы да яе ставімся? Вялікія праблемы пачынаюцца з малога; калі нешта хочаш змяніць у свеце, пачні з сябе. І цяпер гэта зрабіць самы час, калі мы не хочам, каб праз пэўны час нейкія іншыя істоты знаходзілі і вывучалі нашы з вамі скамянелыя рэшткі.**

Наталля ТУР.







Знаходкі з бацькоўскага агарода Дзмітрыя Дамарада.

# "Зваліся не Беларусь, а Крэсы"

## Жыхар Мядзельшчыны – пра жыццё рэгіёна да Другой сусветнай

*Працяг. Пачатак у №№ 5, 7.*

МЯДЗЕЛ

**Успаміны Часлава Лявіцкага, што жыў у Кабыльніку на Мядзельшчыне, запісаныя мной у жніўні 1999 года.**

– Раскажыце, калі ласка, як жылося беларусам пры польскіх уладах да Другой сусветнай вайны.

– Беларусь – гэта мы зваліся: ад Краснага і Маладзечна роўна Гродна і Сувалкі, затым па мяжы Літвы, Германії і Польшчы. Гэта старана звалася Крэсы. Не звалася Беларусь, а звалася Крэсы, бо да 1919 года тут улада Расіі была. А я нарадзіўся ў 1912 годзе, дык памятаю.

### "А Польшча камунізму не хацела"

Польшча ж далей на захад месцілася, аж пакуль у 1919 годзе не знайшоўся **Юзаф Пілсудскі**, які адбіў нашы землі да Польшчы. Таксама ў той час ад немца землі ля мора забраў. Палякам Амерыка, Англія і Францыя дапамаглі. Гэта я добра ведаю, бо калі я быў у арміі, прыязджала дэлегацыя амерыканская, англійская і французская. Я нават ім афіцыянтам служыў, як яны ў альтанцы сядзелі пры аркестры. Яны прамову гаварыць, як Амерыка, Англія і Францыя сябравала з Польшчай і што ў 1939-м будуць палякам дапамагаць.

А Гітлер з трыццаць сёмага пачаў нападаць на Польшчу, каб палякі вярнулі нямецкія землі. Якраз у 1936 памёр Юзаф Пілсудскі – правадыр, які адбароў Польшчу. Прэзідэнтам стаў **Ігнацы Масціцкі**, а над арміяй – сілай збройнай – **Рыдз-Сміглы**. Калісьці Рыдз-Сміглы разам з Гітлерам вучыўся ў Ваенным штабе і сябраваў з ім студэнтамі. Гітлер адразу нагаварыў Рыдза-Сміглага, свайго сябра, ісці сабе калоніі забіраць, якія былі ў пачатку свету на карце. І пайшлі палякі на Чэхаславакію адбіраць Салёжанію. Гітлер даў Польшчы самалёты. Чэхаславакія прайграла і аддала палякам Салёжанію. Гэта было можа ў 1937 ці 1938, бо я пасля 1936 ужо з арміі вярнуўся.

Гітлеру ж толькі тое і трэба было. Ён сказаў: "Ты забраў Чэхаславакію, давай цяпер праезд". На той час немцы плацілі палякам за праезд, бо Германія на два кавалкі была падзеленая. Пры Пілсудскім яшчэ Амерыка-Францыя дамаглі землі нямецкія адбіць і да мора падступіцца, а Германію разлучыла.

На дзве часткі Польшчай землі Германії падзяляліся: Заходняя Прусія са сталіцай Інстэрбург, а на другім баку – Берлін. Таму немцы і плацілі грошы палякам за праезд па іхняй тэрыторыі.

Ужо пад 1938 год Германія зусім націснула: "Дай праезд, а не то вайной пойдзем". Але Польшчай распараджалася Амерыка і Англія. Яны кажуць, што нельга – і ўсё.

Тады Гітлер вырашыў апрануць армію ў адзенне студэнтаў і самапраўна ехаць па гэтым самым шляху. А Польшча замініравала чыгунку і ўзарвала, зламала іхні цягнік і іх разам у кашу. Немцы тады два гады баяліся, не чапалі. Толькі праз радыё, кіно, газеты патрабавалі: "Аддавайце, бо ўсё роўна адаб'ём".

І калі Гітлер зусім стаў нападаць, Польшча папрасіла ў Сталіна дапамогі супраць Германіі. Гэты самы Сталін сказаў: "Вывесць сцяг чырвоны і пушчай ідзёт – у кашу яго зложым".

Аднак Польшча больш фашысцкая была, камунізму не хацела. Ну, дзе ж яна вывесіць сцяг? Гэта ж азначала паддацца пад Саветы. Не пагадзіліся. Тады Гітлер паехаў да Сталіна. Мы былі ўжо змабілізаваныя ў 1939 за два тыдні ў месяцы перад жніўнем, сядзелі толькі пры радыё і выніку чакалі. А немец як падпісаў дамову, адразу праз рацыю перадаў. І без усялякай затрымкі немцы лупанулі па нашай граніцы. Вайну аб'явілі.



Савецкія і нямецкія афіцэры вызначаюць межы Польшчы.

### Амуніцыю для нямецка-польскіх сямей перадавалі ў трунах

Я быў змабілізаваны ў шосты полк у Вільні. Наша дывізія складалася з пятага і шостага палкоў пяхоты ў Вільні, 85 палка ў Маладзечне і 77 палка ў Лідзе. У Вільні пяты і шосты палкі загрузілі на платформы разам з артылерыяй, і, значыць, нам была задача ісці на Пултуск, да нямецкай граніцы. І толькі мы даехалі да Беластока, а немец нам ужо дарогу разбіў. Беласток таксама ўжо быў разбіты. Маткі неслі дзетак без рук, без ножак. Неслі іх хавацца пад гарой за касцельнымі мурамі, а нашы санітары паратунак рабілі гэтым дзеткам.

У Беластоку нас разгрузілі, і мы пешшу пайшлі да Пултуска. Як сталі падыходзіць да граніцы, бачым, што нам насустрач усё пахаванні і пахаванні. Што такое? Калі наша адміністрацыя прыглядзелася, аказалася, што немцы з памежжа перадаюць у трунах флэйдойчам амуніцыю.

Флэйдойч – гэта калі жонка – немка, а ён – паляк, ці наадварот. А наша адміністрацыя паглядзела толькі на гэта, і мы як ішлі фронтам, так і пайшлі. Нашым чапаць нельга было.

Да Пултуска прыйшлі 3 ці 4 верасня. У кожнага жаўнера стаяла задача трох нямецкіх вайскоўцаў забіць, каб абараніцца, бо іх нацы было ў тры разы болей. Дык мы ўглыб Германіі ўвайшлі. Раніцай нам сказалі, што калі яшчэ два такія цёсы зробім, то мы выйграем Польшчу. Далі нам кухню – паесці. Потым загадалі выкінуць лішнія коўдры з пляцака, зрулявываць шынэлькі – усё, каб лягчэй было ў наступленні.

Далі па шэсць штук сухароў пшанічных, кансервы ў бляшанцы пазапіхалі ў кішэнь. І толькі гэтак мы паелі і зноў выступілі ў барацьбу. Як даў немец раптам сілу, мы толькі два тыдні ў адступленні былі. Толькі ў адступленні. А нідзе не далі злажыцца. Мы пехатой, а яны вакол транспартам. Карты ж маюць тэрыторый.

Забягуць наперад – і тады з аднаго боку, з другога крыжавымі агнямі кулямётамі, аўтаматамі, артылерыяй – і зноў у кашу. Бачым, што нічога так не будзе. Тады наша дывізія хацела немцам не даццa, каб дайсці да Варшавы. Хоць у Варшаву трэба было немца не ўпусціць. Дарэчы, у вайну два тыдні трымалася Варшава, болей чым уся Польшча. Але мы палову дарогі дайшлі да Варшавы, і каля Седліц нас узялі ў палон.

Запісаў Вадзім ПРАЎРАЦКІ, Мядзел.

Працяг будзе.

---

КАЛЯНДАР

**23 ЛЮТАГА**

**Дзень абаронцаў Айчыны і Узброеных сіл Рэспублікі Беларусь.**

**140 гадоў** з дня нараджэння **Казіміра Малевіча** (1878 – 1935), беларускага сусветна вядомага мастака-авангардыста, выкладчыка народнай мастацкай школы ў Віцебску (1919 – 1922 гг.), аднаго з заснавальнікаў абстрактнага мастацтва.

**24 ЛЮТАГА**

**80 гадоў** з дня нараджэння Іосіфа Скурко (1938 – 1989), паэта, кінадраматурга, перакладчыка. Нарадзіўся ў Мядзельскім раёне.

**1922.** Памёр **Ядвігін Ш.** (сапраўднае прозвішча Антон Лявіцкі), пісьменнік, літаратуразнаўца, грамадскі дзеяч. Значную частку жыцця пражыў у бацькоўскім фальварку Карпілаўка пад Радашкавічамі. У 1909 – 1910 гадах жыў у Вільні, працаваў сакратаром, а затым загадчыкам літаратурнага аддзела "Нашай нівы". Меў дачку.

**1935.** Нарадзіўся **Рыгор Барадулін**, беларускі і савецкі паэт, перакладчык, эсэіст, на дадзены момант з'яўляецца апошнім чалавекам, які атрымаў званне "Народны паэт Беларусі". Памёр 2 сакавіка 2014 года.

**25 ЛЮТАГА**

**1919.** Выканаўчы камітэт Мінскага Савета рабочых і сялянскіх дэпутатаў прыняў рашэнне аб стварэнні Дзяржаўнага ўніверсітэта ў Мінску.

**26 ЛЮТАГА**

**100 гадоў** з дня нараджэння **Пятра Машэрава** (1918 – 1980), партыйнага і дзяржаўнага дзеяча Беларусі, аднаго з арганізатараў і кіраўнікоў патрыятычнага падполля і партызанскага руху ў Беларусі ў гады Вялікай Айчыннай вайны, Героя Савецкага Саюза, Героя Сацыялістычнай Працы.

**90 гадоў** назад (1928) у Мінску створаны Камітэт абароны Беларускай сялянска-рабочай грамады (камітэт узначаліў Янка Купала).

**1891.** Нарадзіўся **Ян (Янка) Станкевіч**, псеўданімы Брачыслаў Скарынін, Ян Янушонак, беларускі мовазнаўца, гісторык, палітычны дзеяч, брат Адама Станкевіча. Доктар філасофіі (1926). Нарадзіўся ў вёсцы Арлянята, Ашмянскі павет. Памёр 16 жніўня 1976 года ў ЗША.

**29 ЛЮТАГА**

**550 гадоў** назад (1468) быў выдадзены Судзебнік (статут Казіміра IV Ягелончыка), помнік старажытнай беларускай мовы, першы кодэкс крымінальнага і працэсуальнага права Вялікага Княства Літоўскага.

Марыя БЕРАСНЕВА.

## Як правільна даць... грошы ў доўг

**Часам бывае, што вельмі патрэбныя грошы. Калі патрабуецца невялікая сума, то звычайна яе пазычаюць. Банк у такіх выпадках не выйсце, куды прасцей папрасіць суму ў сяброў ці сваякоў.**

Наўрад ці знойдзецца той, хто ніколі не прасіў або не даваў пазыку. Звычайна такія гісторыі заканчваюцца добра і не ператвараюцца ў "драму пра дабрачыннасць". Але, як паказвае практыка, ёсць прыклады сумнага развіцця падзей, калі выбіваць грошы даводзіцца праз суд.

Як жа правільна даць у доўг, каб не страціць грошы і сяброў? Самы просты спосаб афармлення "грашовых адносін" – скласці распіску. Гэта дакумент, якім замацоўвае або засведчвае сам факт перадачы грошай ад аднаго другому. Калі грошы давядзецца вяртаць прымусова, гэтай распіскі бывае дастаткова.

Як правільна скласці распіску? Вельмі проста! Робіцца гэта на звычайным аркушы паперы. Там варта напісаць, хто і каму перадаў грошы, якую суму – абавязкова пазначыць, у якой валюце і на які тэрмін. Можна прапісаць і ўмовы, напрыклад, штрафы за пратэрміноўку.

Падпісаць дакумент абавязаны абодва бакі: той, хто бярэ пазыку, і той, хто дае ў доўг. Пажадана, каб распіску падпісалі яшчэ некалькі старонніх людзей: тады, калі справа раптам дойдзе да суда, яны змогуць быць сведкамі.

### Парада

Лепш, каб распіску ад рукі напісаў той чалавек, якому даюць грошы. Калі пасля ён адмовіцца вяртаць доўг і пачне сцвярджаць, што ніякіх папер не падпісваў, зваротнае можна даказаць почырказнаўчай экспертызай. Хоць сілу маюць і тыя распіскі, якія былі набраныя на камп'ютары і раздрукаваныя. Галоўнае, каб там былі подпісы. Без іх дакумент не будзе мець вартасці.

**Юлія МАТУСЕВІЧ, "Ганцавіцкі час".**

## З макетам электрастанцыі школьнік з Нарочы перамог на конкурсе "ТэхнаІнтэлект"

**ВІЛЕЙКА**

Вучань Нароцкай сярэдняй школы **Юры Шышко** перамог у абласным этапе конкурсу "ТэхнаІнтэлект". Юры прадставіў макет гідраакумулюючай электрастанцыі.

Хлопец займаецца ў гуртку "Ракетамадэляванне". На конкурсе ён выступіў у намінацыі "Энергазберагальныя тэхналогіі". Юны навуковец даследаваў акумуляванне энергіі, якая атрымліваецца ад сонечных промняў.

Яго працу адзначылі дыпломам першай ступені. Юры прадставіць Міншчыну на рэспубліканскім конкурсе.

Яго брат Аляксандр таксама ўдзельнічаў у "ТэхнаІнтэлекце". Ён атрымаў дыплом трэцяй ступені за копію-мадэль ракеты.

## Выдзеляць грошы на кацельню

**АШМЯНЫ**

Міністэрства энергетыкі у 2018 годзе выдзеліць 1,85 мільёна рублёў на мадэрнізацыю кацельні па вуліцы Будаўнікоў у Ашмянах з устаноўкай катла на мясцовых відах паліва.

Гэта прадугледжанае пастановай Савета Міністраў ад 13 лютага №122, якая афіцыйна апублікаваная на Нацыянальным прававым інтэрнэт-партале. Грашовыя сродкі выдзеляць унітарнаму прадпрыемству жыллёва-камунальнай гаспадаркі з пазабюджэтнага цэнтралізаванага інвестыцыйнага фонду Міністэрства энергетыкі на беззваротнай аснове.

Гродзенскаму аблвыканкаму даручылі забяспечыць кантроль за мэтавым выкарыстаннем сродкаў.

**Паводле БелТА.**

## Прызначылі начальніка Інстытута памежнай службы Беларусі

**СМАРГОНЬ**

19 лютага Аляксандр Лукашэнка падпісаў Указ пра новыя кадравыя прызначэнні.

Згодна з дакументам, начальнікам Інстытута памежнай службы стаў начальнік Смаргонскай памежнай групы палкоўнік **Сяргей Жылінскі**.

**Паводле БелТА.**

# Хірург: "Абутак на высокім абцасе не ўплывае на развіццё варыкознай хваробы"

**Па словах Паўла Грэчкі, штодня ў хірургічным аддзяленні Баранавіцкай бальніцы №2 праводзяць дзве-тры планавыя аперацыі па прычыне варыкознай хваробы.**



Аказваецца, ад абцасаў варыкоз не развіваецца. Галоўнае, у іх хадзіць, а не сядзець.

Фота ROXY.UA.

Што правакуе развіццё "сіняй сетачкі" на нагах, чаму ад варыкозу часцей пакутуюць жанчыны, ці дапамогуць у барацьбе з варыкознай хваробай спецыяльныя гелі і таблеткі – на гэтыя і іншыя пытанні адказаў Павел Грэчка, загадчык хірургічнага аддзялення Баранавіцкай гарадской бальніцы №2.

На ранніх стадыях варыкозная хвароба візуальна можа не праяўляцца. Вены могуць быць яшчэ не бачныя, але першыя прыкметы ўжо ёсць: пачуццё стомленасці і цяжару ў нагах, ацёкі да канца працоўнага дня. Таксама аб пачатку захворвання сведчаць сасудзістыя сеткі і зорачкі.

### Галоўны фактар – спадчыннасць

Варыкозная хвароба – паталагічнае расшырэнне нармальных вен. Адным з асноўных фактараў яе развіцця з'яўляецца спадчыннасць: у 90% аперацыйных пацыентаў тыя ці іншыя праявы варыкознай хваробы былі ці ёсць у блізкіх сваякоў.

Яшчэ адзін магутны правакацыйны фактар – гіпадынамія. Для вен шкодна доўга стаяць або сядзець – адбываецца застой крыві ў глыбокіх венах. Таму сярод пацыентаў пераважаюць прадстаўнікі "сядзячых" прафесій: бухгалтары, вадзіцелі. Яшчэ адна прычына варыкозу – лішняя вага.

А вось становішча ног крыж-накрыж пры сядзенні, нашэнне абутку на высокім абцасе, цеснага адзення пры ўмове, што ў вас няма спадчыннай схільнасці, на самой справе не ўплываюць на развіццё варыкознай хваробы. Нашы сасуды добра абароненыя ад перагібанняў, і механічнае ўздзеянне ім не страшнае.

### Суадносіны мужчын і жанчын: адзін да чатырох

Варыкозная хвароба не мае ўзросту. У маёй практыцы быў 16-гадовы падлетак. Але, як правіла, першыя прыкметы захворвання праяўляюцца пад 25-30 гадоў.

Варыкоз сустракаецца і ў мужчын, і ў жанчын. Але прадстаўніцы прыгожага полу пакутуюць ад варыкозу часцей – прыкладна адзін да чатырох.

**Першыя прыкметы варыкознай хваробы ў жанчын часта выяўляюцца падчас цяжарнасці – захворванне знаходзяць прыкладна ў 40-50% цяжарных. Тлумачыцца гэта тым, што на развіццё хваробы ў жанчын уплывае гарманальны фон.**

Яшчэ адна прычына, чаму сярод пацыентаў больш жанчын: прадстаўніцы прыгожага полу больш пільна сочаць за здароўем і часцей звяртаюцца да медыкаў. Мужчыны ў большасці выпадкаў на аперацыйны стол трапляюць ужо на позняй стадыі захворвання, паколькі эстэтычны выгляд для іх не такі істотны.

Нярэдкія выпадкі, калі і жанчыны, і мужчыны звяртаюцца з запушчаным захворваннем: калі адбыліся змяненні скуры і нават з язвамі, якія цяжка лячыць. І жанчын сярод такіх пацыентаў больш. На пытанне "Чаму позна звярнуліся?" адказваюць: "Не было калі" ці "Баяўся аперацыі".

### Справа не ў эстэтыцы, а ва ўскладненнях

Варыкоз – не проста непрыгожыя вены, якія выступаюць на нагах. Гэта сур'ёзнае захворванне, якое прагрэсуе і можа прывесці да хранічнай вянознай недастатковасці, трафічных язваў, тромбафлебіту, трамбозу.

Многія, знайшоўшы ў сябе расшыраныя вены, спрабуюць самі справіцца з дапамогай таблетак і геляў. Але ніякія разрэкламаваныя таблеткі і гелі не дапамогуць. Іх медыкі могуць рэкамендаваць толькі ў якасці дадатковай або падтрымліваючай тэрапіі. А бескантрольнае ўжыванне такіх прэпаратаў можа выклікаць дэрматыт або алергію.

Многія, заўважыўшы расшыраныя вены, спяшаюцца зрабіць ультрагукавое даследаванне. Каб паставіць дыягназ, дастаткова агляду доктара-спецыяліста.

Не варта баяцца аперацыі, калі яе парэкамендуе доктар. Сёння яны малатраўматычныя і не патрабуюць працяглай рэабілітацыі. І калі пасля рэгулярна наведвацца ў доктара, можна пазбегнуць рэцыдываў і захаваць прыгажосць і здароўе ног.

**Падрыхтавала Ірына ПЛЮТО, "Інтэкс-прэс", Баранавічы.**

### Тры простыя парады для здароўя вен

- Больш рухацца – лепшая прафілактыка варыкознай хваробы. Нават калі ў вас ёсць спадчынная схільнасць, актыўны лад жыцця дапаможа адтэрмінаваць пачатак хваробы.
- Сачыце за вагой. Гэта дазволіць пазбегнуць павышанай нагрузкі на сасуды ног.
- Часцей уставайце з працоўнага месца і хадзіце – такім чынам забяспечыце адток крыві.




У стрыманых беларусаў ад разнастайнасці фарбаў у Бразіліі можа закружыцца галава.



Яўгенія Прыгодзіч з мужам ля статуі Хрыста Збаўцы – візітоўнай карткі Бразіліі.

# У Бразіліі каву п’юць і дзеці, а з-за серыяла сустрэчы адмяняе нават прэзідэнт

МАЛАДЗЕЧНА

**Скажыце, што вы ведаеце аб далёкай Бразіліі? Думаю, што няшмат: напрыклад, што там усе гуляюць у футбол і танцуюць самба. А яшчэ ходзяць у белых штанах …**

Але вы забыліся, што ў Бразіліі ў лютым праходзіць самы вядомы, самы вялікі, самы яркі карнавал у свеце.

Маладзечанка **Яўгенія Прыгодзіч** паехала туды і гатовая падзяліцца з намі ўсім тым, што даведалася пра Бразілію ў гэтыя карнавальныя дні.

Па-першае, у Бразіліі цяпер лета і там +35 градусаў спякоты, але ў белых штанах ніхто не ходзіць.

– На самой справе,– распавядае Яўгенія, – бразільцы па белых штанах адрозніваюць рускіх турыстаў.

Так-так, начытаўшыся “12 крэслаў”, дзе Астап Бэндэр мроіў аб Бразіліі і аб тым, што будзе хадзіць тут у белых штанах, у рускіх турыстаў склаўся стэрэатып, што гэты прадмет адзення абавязкова браць з сабой.

– Замежнікаў бразільцы называюць Грынга. Гэта слова не крыўднае, проста вось такая мянушка ва ўсіх тых, хто прыязджае ў Бразілію атрымоўваць асалоду ад яе прыгажосці.

У Бразіліі вас чакае яшчэ адна хітрасць. Нават калі вы англійскую мову ведаеце як родную, вам гэта тут не дапаможа. Таму што ў Бразіліі ўсе гавораць толькі на партугальскай і зусім не ведаюць іншых моў.

Больш за тое, вы створыце ўражанне на любога бразільца, сказаўшы, што вы ведаеце некалькі моў. Таму што замежная мова ў бразільскіх школах – гэта новы прадмет і вывучаць яго сталі зусім нядаўна.

А ў самой Бразіліі ўвогуле вельмі шмат непісьменных людзей.

**А калі вы раптам захочаце ў 20:00 паглядзець навіны па тэлебачанні, не здзіўляйцеся, калі яны пачнуцца на хвілін 15 пазней.**

– Бразільцы ніколі не прыходзяць своечасова, нават навіны па тэлевізары пачынаюцца са спазненнем. Можа, таму, што жыхары Бразіліі вельмі гаманкія і здаецца, што яны нікуды не спяшаюцца, могуць завязаць размову ў любым месцы з нагоды і без. Натуральна, прагаварыўшы гадзіну з бразільцам, вы спозніцеся куды заўгодна.

Тое, што мы з вамі ведаем пра Бразілію, як пра краіну футбола і серыялаў, гэта праўда.

– Серыялы паўсюль, быў выпадак, калі прэзідэнт **Дылма Русеф** перанесла важную сустрэчу з-за серыяла. Тут з гэтым усё сур’ёзна.

Як і з футболам. Па тэлебачанні ні за што не пакажуць футбольны матч і серыял адначасова па розных каналах. Тут паважаюць правы жыхароў сваёй краіны атрымоўваць асалоду ад любімых відовішчаў у поўнай меры.

І яшчэ па бразільскіх каналах паказваюць мульцік “Маша і мядзведзь” на партугальскай мове, і гучыць назва як “Маша і Урса”.

Бразільцы зусім не гурманы. І абед у іх такі ж, як у нас: мяса, бульба, фасоля, рыс. І кава. Тут яе п’юць нават зусім маленькія дзеці.

І яшчэ адзін нюанс. Нават калі вы прывыклі піць каву з булачкай або пірожным, то для бразільца такі дэсерт падасца прэсным і нясмачным. Іх дэсерт – вельмі салодкі. Нават занадта.

Аднак Бразілія – гэта не толькі радасная краіна, дзе ўсе любяць адзін аднаго, як можа падацца на першы погляд.

**– Мяне ўразіла, што з 10 вечара да 6-й раніцы тут ніхто не спыняецца на чырвонае святло святлафораў, каб пазбегнуць рабавання.**

А ў крамах усе разлічваюцца карткамі, таму што рэшту вам усё роўна вернуць не цалкам. Аблічаць, не міргнуўшы вокам.

Перад намі нейкім англічанам “уцюхалі” выкарыстаныя білеты на статую Хрыста Збаўцы. І турыстам з Англіі давялося купіць новыя, значыць, заплаціць двойчы. А кіроўца маршруткі цішком прыгандлёўвае сувенірамі міма касы.

**У паліцэйскіх з кожнай машыны тырчыць стрэльба.**

Але тут на гэта ніхто не звяртае ўвагі.

Бразільцы – тэмпераментны і вельмі раўнівы народ.

– Кампліменты яны казаць не саромеюцца нават незнаёмым людзям. Самыя шчырыя, вядома ж, вашай “пятай кропцы”. У бразільцаў так: “Азадка ніколі не бывае шмат”. Яны падтрымліваюць адносіны нават з самымі далёкімі сваякамі. І танцуюць самба. Танцуюць усе: і прадаўцы, і дамашнія прыслужніцы, і дзеці.

Таму не дзіўна, што гэтаму танцу бразільцы прысвяцілі цэлы карнавал.

14 галоўных школ самба з розных раёнаў Рыа-дэ-Жанейра рыхтуюцца да гэтага свята ўвесь год. Кожная з іх дэманструе публіцы цэлы спектакль са складанай харэаграфіяй, вытанчанымі дэкарацыямі і фантастычна прыгожымі касцюмамі. Спецыяльна для карнавалу школы самба замаўляюць новыя самба-кампазіцыі, якія адпавядаюць тэме мерапрыемства гэтага года. Карнавальныя касцюмы таксама павінны цалкам абнаўляцца кожны сезон.

Каб далучыцца да шэсця на карнавале, дастаткова ўзяць у арэнду касцюм у адной са школ самба, якія ўдзельнічаюць у карнавале.

– А яшчэ мы хадзілі на канцэрт мясцовай зоркі, такі бразільскі **Макс Корж**, ад якога фанацее ўся бразільская моладзь. Білеты на яго выступленне каштавалі 130 долараў. Плюс 30 долараў мы заплацілі за паркоўку. На карнавале ўсё яшчэ даражэй.

Але гэта варта таго, таму што ўражанняў ад гарачай ва ўсіх сэнсах Бразіліі хопіць на ўсё жыццё.

**Наталля ТУР.**
**Фота Яўгеніі ПРЫГОДЗІЧ.**

● ШАХМАТЫ З ВІТАЛЕМ КАЧАТКОВЫМ. ПЕДАГОГАМ (ВЫПУСК 4)

## Вывучаем слана

**Сёння мы з вамі асобна вывучым адну з фігур – слана.**

Калі ўмееце гуляць у шашкі, то хады слана можна параўнаць з шашачнымі дамкамі. Адрозненне ў тым, што ў шашках для барацьбы выкарыстоўваюцца толькі чарнапольныя палі, а ў шахматах – усе. І белыя, і чорныя. Таму і сланы бываюць і белапольныя, і чарнапольныя.

Другое адрозненне шахмат ад шашак – ва ўзяцці. У шашках фігура, якая б'е, пераскоквае бітую, а ў шахматах – становіцца на яе месца.

**Ёсць яшчэ важкае правіла ў шахматах – біць неабавязкова!**



Такім чынам, вывучаем слана. Расстаўляем падобныя пазіцыі і гуляем з дзіцем у сланоў.





Сочым, каб дзіця правільна рабіла хады па дыяганалі, не пераскоквала з дыяганалі на дыяганаль. Рабіце хады па чарзе: адзін ход – дзіця, адзін ход – вы. Падстаўляйце пад бой дзіцяці свайго слана. Калі яно не заўважыла – пакажыце яму на памылку. Не сварыцеся, толькі хваліце!

Калі ён асвоіць гульню з адным сланом, дадайце іншага:





Вельмі прашу, толькі не спяшайцеся і не сварыцеся на дзяцей. Яны могуць засяродзіцца на хвілін 5-10, максімум 15. Галоўнае – рэгулярнасць заняткаў!

**Віталь КАЧАТКОЎ,**
**майстар спорту па шахматах Беларусі, Маладзечна.**

## Выхаванкі ДЮСШ-4 перамаглі ў першынстве Мінскай вобласці па міні-футболе

**У суботу, 17 лютага, у спартыўна-забаўляльным цэнтры ў Маладзечне прайшлі спаборніцтвы па міні-футболе сярод дзяўчат 2001-2003 гадоў нараджэння.**

У першынстве Мінскай вобласці ўзялі ўдзел каманды з Маладзечна, Жодзіна, Валожына, Пухавічаў, Старых Дарог, Нясвіжа, Чэрвеня.

Па выніках спаборніцтваў першае месца занялі падначаленыя Уладзіміра Макоўскага з Маладзечна. Другое месца ў каманды з Пухавічаў, трэцяя – дзяўчаты з Жодзіна.

**Наталля ТУР.**

ТЭМА НУМАРА



Злева направа Валер Вятроў, Міхаіл Макоўскі і Дзмітры Касцюк падчас сустрэчы з заўзятарамі 18 лютага. Фота Наталлі ТУР.

# Маладзечанскі футбол аказаўся ў цэнтры скандалу

МАЛАДЗЕЧНА

**Амаль цягам тыдня маладзечанскі футбол не сыходзіць не толькі з вуснаў маладзечанцаў, але і з палос беларускіх, украінскіх ды расійскіх выданняў.**

У загалоўках – браты Макоўскія.

16 лютага ў афіцыйнай суполцы ФК "Маладзечна" "Укантакце" з'явілася інфармацыя, што галоўным трэнерам маладзечанскай каманды прызначаны **Міхаіл Макоўскі**.

А 18 лютага Міхаіл Макоўскі, **Валер Вятроў** і **Дзмітры Касцюк** зладзілі адкрытую сустрэчу з заўзятарамі, на якую запрасілі ў тым ліку і журналістаў.

### Сённяшні галоўны трэнер ФК "Маладзечна" Міхаіл Макоўскі: "У 2018 годзе нас чакае "падняніе" футбола"

Падчас сустрэчы, на якую Міхаіл спазніўся, галоўны трэнер спрабаваў адказаць на пытанні, што чакае маладзечанскую каманду ў сезоне.

Пры гэтым словы галоўнага трэнера, трэнера і дырэктара каманды, уласніка рэстарана "Легран" **Ахада Сахбатава**, супярэчылі адзін аднаму.

Прынамсі, з вуснаў галоўнага трэнера прагучалі словы, што каманда будзе ўзмацняцца за кошт гульцоў з Мінска, а дырэктар каманды двойчы паўтарыў, што чужых гульцоў у камандзе "Маладзечна" не пацерпіць.

Міхаіл Макоўскі і Валер Вятроў сцвярджалі, што запрасілі на першую трэніроўку усіх мясцовых футбалістаў з мінулага сезона, а некаторыя футбалісты прызнаваліся, што ім ніхто нават не тэлефанаваў.

Міхаіл Макоўскі сярод сваіх памочнікаў называў **Аляксандра Гармазу і Віталя Казяка**:

– Дапамагаць мне будуць трэнеры-кансультанты, гэта не тое, што дапамагаць, яны будуць раіць мне. Гэта Аляксандр Гармаза і Віталь Казяк.

Аднак пасля ў размове Віталь Казяк адказаў:

– Ні я, ні Аляксандр Пятровіч не плануем працаваць з гэтай камандай. Так, калі трэба будзе нейкая парада, дадзім. Калі трэба будзе параіць гульцоў, параім.

З вуснаў галоўнага трэнера прагучалі словы пра тое, што ён цяпер закладвае фундамент маладзечанскага футбола, а на пытанне наконт задач на сезон, журналіст так і не атрымаў адказу.

Вынікамі сустрэчы аказаліся незадаволенымі і фанаты маладзечанскай каманды.

**Ягор Ясюкевіч** адказаў:

– Смешна і сумна. Нічога добрага я не пачуў, акрамя таго, што застанецца назва каманды і колеры. Адказалі, але тага, што хацеў пачуць я, не пачуў.

Амаль гэтыя ж словы паўтарыў і **Арцём Дзянісаў**:

– Цырк! Прыйшлі, каб абмеркаваць актуальныя пытанні і задаць тыя, якія нас цікавяць, а замест гэтага павінны былі слухаць незразумела што. Адзін кажа адно, другі іншае. Мала таго, што галоўны трэнер спазніўся на сустрэчу, плюс да таго і стан трэнера выклікаў кучу пытанняў. Нядзеля, кажа, меў права расслабіцца.

Стан трэнера, насамрэч, выклікаў буру эмоцый і абмеркаванняў у той жа суполцы "Укантакце".

Як бы там ні было, але на першую трэніроўку, якая была прызначаная на панядзелак, 19 лютага, Міхаіл не з'явіўся.

Трэніроўку праводзіў яго брат **Уладзімір Макоўскі**.

На трэніроўцы, па словах прысутных, Уладзімір аб'явіў сябе галоўным трэнерам каманды "Маладзечна-ДЮСШ-4".

Аднак пасля грамадскасць абурылася, што Уладзіміру забаронена займацца трэнерскай дзейнасцю.

У гэты ж дзень, 19 лютага, сайт "Прэсбол.бай" напісаў:

– 19 лютага ў Доме футбола адбылося пасяджэнне Камітэта кантрольна-дысцыплінарнага і па этычных пытаннях Беларускай федэрацыі футбола. На ім былі вынесеныя рашэнні ў дачыненні да фізічных асоб, якія ўдзельнічалі ў дамоўных матчах. Пакаранню ў выглядзе пажыццёвай дыскваліфікацыі ў ліку іншых футбалістаў падвергнуўся трэнер Уладзімір Макоўскі ("Іслач").

Як толькі прагучала гэта інфармацыя, у пабліку "ФК "Маладзечна" з'явіўся допіс, што Валер Вятроў – галоўны трэнер.

### Чуткі пра тое, што ў Маладзечне за суткі змяніліся тры трэнеры, моцна перабольшаныя

Па тлумачэнні мы звярнуліся да намесніка начальніка аддзела адукацыі, спорту і турызму **Мікалая Шрымфа**.

– Хто, скажыце, гэта прыдумаў? Каб прызначыць чалавека на адпаведную пасаду, павінны быць загад. А ні аднаго дакумента не было. Мужыкі сабраліся на стадыёне, нешта самі вырашылі. Раздзьмулі скандал у інтэрнэце. Відаць, трэба да канца тыдня сустрэцца з імі, пагутарыць па-мужчынску. Ой, дзеці.

Такім чынам высветлілася, што ніхто не прызначаў Міхаіла Макоўскага галоўным трэнерам, ды і каманды, фактычна, пакуль няма.

Мы будзем сачыць за падзеямі. А вы сачыце за праграмай тэлеперадач. Па некаторых звестках, прозвішчы Макоўскіх і сітуацыя з маладзечанскім футболам прагучыць у расійскай перадачы "Вячэрні Ургант".

**Наталля ТУР.**



# Крыжаванка ад “Рэгіянальнай газеты”



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**

2. Посах.
3. Металічны пруток або ланцуг з цяжарам на канцы, які мерна вагаецца з боку ў бок у падвешаным стане.
5. Мужчына, які мае нявесту.
6. Перавясла.
8. Пэўны тэрмін знаходжання на службе.
9. Значок на ігральнай карце ці косці, які абазначае яе вартасць у гульні.
13. Далёкі продак, родапачынальнік.
14. Від выяўленчага мастацтва, які перадае прадметы і з’явы навакольнага свету пры дапамозе фарбаў.
15. Буйназярністы жоўты пясок.
19. Роды ў кароў і некаторых іншых жвачных.
20. Тэрарыстычная гангстэрская арганізацыя на востраве Сіцылія.
23. Працэс адкладання самкамі рыб ікры і апладненне яе самцамі.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**

1. Карункавая або вышываная палоска, якую ўшываюць у настольнік, ручнік.
4. Жаданне.
5. Плод дуба.
7. Лічыцца, што на сённяшняй тэрыторыі гэтай краіны чалавек упершыню асядлаў каня.
10. Той, хто выробляе, стварае матэрыяльныя каштоўнасці.
11. Герб гэтага горада – алень на блакітным шчыце, які скача праз сярэбраную агароджу. Выява накіроўвала на тое, што каля горада шмат паляўнічых угоддзяў.
12. Пасля бітвы пры Ватэрлоа гэта збіралі ад загінулых салдат, а пасля выкарыстоўвалі ў медыцыне.
16. Арганізатар сельскагаспадарчай вытворчасці.
17. Ашуканец.
18. У свеце існуюць людзі, якія не вераць, што яна існуе. Лічаць, што гэта прапаганда і выдумка.
19. Работнік сталовай, рэстарана, які падае стравы.
21. Звярок роду млекакормячых атрада грызуноў, які жыве ў дуплах дрэў.
22. Характэрны знешні выгляд, які адлюстроўвае ўнутраны стан чалавека.



## Адказы на крыжаванку з №7

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ.** Па гарызанталі. 3. Раніца. 4. Забіць. 6. Рака. 9. Гвалт. 11. Гадзюка. 12. Світанак. 13. Вада. 14. Бубен. 21. Раса. 24. Пажар.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ.** 1. Бульба. 2. Возера. 5. Нізка. 7. Абвод. 8. Пасол. 10. Яйкі. 14. Брага. 15. Авал. 16. Батый. 17. Юнона. 18. Ваяры. 19. Брэст. 20. Археолаг. 22. Нестар. 23. Слон.

## Мінскі абласны драматычны тэатр

**РЭПЕРТУАР НА ЛЮТЫ**

**ГАСТРОЛІ СЛОНІМСКАГА ДРАМАТЫЧНАГА ТЭАТРА**

“**Шчаўкунчык**” 3+ (музычная казка для дзяцей па матывах казкі Э.Т.А.Гофмана)

24 лютага – у 11:00 і 13:00

“**Паўлінка**” 12+ (камедыя), *Янка Купала*

24 лютага – у 17:00

ПРЭМ’ЕРА. “**Ну, вы даяце**” 16+ (камедыя па матывах сучаснай драматургіі)

28 лютага – у 19:00

Тэатр мае права на замену спектакляў.

***Маладзечна, вул.Чкалава, 7.***

Кантактныя тэлефоны:

**52-30-66** – намеснік дырэктара,

**52-30-68** – галоўны адміністратар,

**52-30-65** – каса.

E-mail: modt@tut.by, www.theatre-modt.by

УНП 600066659

## Мінскі абласны тэатр лялек “Батлейка”

**РЭПЕРТУАР НА ЛЮТЫ**

“**Снежная каралева**” (чароўная казка) Г. Х. Андэрсэн (рус.)

25 лютага - у 12:00

Чакаем вас, шаноўныя гледачы, у нашым тэатры па адрасе:

**Маладзечна, вул. Драздовіча, 5-в.**

Тэл. (8-0176) **74-62-19**, **50-56-96**.

УНП 600136804

## ГАРАСКОП 23 ЛЮТАГА – 1 САКАВІКА



**АВЕН.** Дні нясуць перамены, але першы этап запатрабуе ад вас пэўных маральных высілкаў, а таксама разумення і жадання ўпусціць у ваша жыццё новае, наўзамен страчанаму.



**ЦЯЛЕЦ.** Удачна рэалізуецца ўсё, што звязанае з працай і фінансамі, дарэчы было б рабіць укладанні ці каштоўныя пакупкі. Можна адпраўляцца ў падарожжа, мяняць месца жыхарства, купляць жыллё ці проста адпачыць за мяжой – усё вітаецца.



**БЛІЗНЯТЫ.** Жыццё ваша працякае ціха, без змяненняў. Стаўце мэты і будзьце больш настойлівыя ў іх дасягненні.



**РАК.** Для вас гэтыя дні будуць звязаныя з рамантычным настроем, прыемнымі знаёмствамі і падзеямі ў асабістым жыцці. Спрыяльныя дні не толькі для пачатку новых адносін, але і для ўнясення навізны ва ўжо пэўныя адносіны.



**ЛЕЎ.** Вам не варта цяпер увасабляць у жыццё свае планы, асабліва калі яны занадта складаныя. Не выпрабоўвайце лёс. Людзям рызыкоўным лепш застацца дома і не рабіць ніякіх дзеянняў. Канчатковым вынікам такіх дзеянняў можа быць поўнае крушэнне ўсіх надзей і чаканняў, змена ўкладу жыцця і мноства іншых, не вельмі прыемных перамен.



**ДЗЕВА.** Усё ў вашых руках, і таму вінаваціць кагосьці ці чакаць дапамогі, падтрымкі, а ўжо тым больш, каб за вас усё зрабілі, не варта. Старайцеся як мага менш мітусіцца, расходуйце свае сілы разумна, не кідайцеся ў крайнасці, рабіце ўсё паслядоўна, адно за другім.



**ШАЛІ.** Не драматызуйце сітуацыю, вашы справы ідуць на папраўку, хоць і не зусім хутка. Ваша становішча будзе паляпшацца, і вы зможаце адчуць у сабе новыя сілы для руху наперад. Шчасце ўжо не за гарамі. Вам цяпер трэба працаваць са сваёй падсвядомасцю, дагаворвацца са сваім унутраным я і шукаць матывацыю ўнутры сябе.



**СКАРПІЁН.** Вам трэба запасціся станоўчымі эмоцыямі і сіламі, бо вас чакае шмат перамен. Кола лёсу можа паварочвацца ў розныя бакі, але ў вас ёсць шанец павярнуць яго так, як вам будзе карысней.



**СТРАЛЕЦ.** Вы адчуеце прыліў сіл, жаданняў і імкненняў. Наперадзе можа з’явіцца пуцяводная зорка, якая павядзе вас. Раскрываюцца гэтак жа і вашы эмацыйныя бакі, узмацняецца пачуццёвасць, рамантычнасць. Спрыяльнае спалучэнне для пачатку справы, пра якую вы даўно марылі.



**КАЗЯРОГ.** Старайцеся не настройваць сябе на дрэннае, і тады ў вашым жыцці ўсё будзе адбывацца нашмат лепш.



**ВАДАЛЕЙ.** Часам вашы эмоцыі могуць прыводзіць да таго, што вы будзеце дзейнічаць не па правілах і нават не на карысць сабе, а ў выніку эмацыйнага парыву. Калі не ўтрымаць сябе, асабліва ад няправільных учынкаў, паспешных рашэнняў і неабдуманых дзеянняў, то гэта можа сур’ёзна адбіцца на вашым дабрабыце, вы парушыце свае адносіны з блізкімі вам людзьмі.



**РЫБЫ.** Прысвяціце час сабе, сваім жаданням, марам. Папесціце сябе. “Разгрузіце” сваю галаву, ні пра што не думайце. Ні ўва што не ўмешвайцеся. І тады вы зможаце узнаваць свае ўласныя сілы, адчуць гармонію з сабой.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 5 | | 6 | | 2 | 9 | |
| 9 | | | | | | 7 | 5 | 8 |
| | 8 | | | 9 | 7 | | | 1 |
| | | 8 | | 1 | | | 6 | |
| 5 | | | | 7 | | 3 | | 2 |
| | | | | 5 | 6 | | | 4 |
| 8 | | | 1 | | 4 | | | |
| | | | 7 | 2 | | | | 9 |
| | | | | | | 4 | 3 | |

**Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.**

ISSN 1991–7155

# Рэгіянальная газета. Rh.by

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017 · НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

тэлетыдзень

## НАДВОР'Е

### 24 лютага, субота

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | -11 / -10 | | -6 / -11 | | -11 / -12 | | -14 / -11 | |
| | 746 | ↖ 7 | 746 | ↙ 7 | 749 | ↓ 4 | 747 | ↓ 2 |
| Вільня | -10 / -7 | | -9 / -11 | | -14 / -11 | | -14 / -9 | |
| | 751 | ↖ 5 | 756 | ↙ 7 | 757 | ↙ 4 | 755 | ↓ 3 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветру м/с | |

Усход 8.12
Захад 18.39
Даўжыня дня 10.27

Усход 12.20
Захад 3.39
Квадра 2

| Горад | Тэмпература | Ціск | Вецер |
|---|---|---|---|
| Віцебск | -15 / -11 | 756 | ↙ 6 |
| Гродна | -8 / -8 | 759 | ↙ 7 |
| Мінск | -6 / -11 | 746 | ↙ 7 |
| Магілёў | -7 / -6 | 752 | ← 5 |
| Брэст | -6 / -5 | 754 | ↙ 7 |
| Гомель | -7 / -6 | 752 | ← 5 |

## ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я

### НАРАЧ

Мінімальная тэмпература -25,5 °C у 2007 годзе
Максімальная тэмпература +6,6 °C у 2008 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 3,1 мм у 2005 годзе
Паводле meteoinfo.by



## Чытайце праз тыдзень

Віляйчанка Наталля Лапіцкая з'ехала ў Данію ў 2002. Цяпер яна працуе нейрарэнтгенолагам. Пра яе жыццё чытайце ў наступным нумары.

## Будзь выдатнікам – атрымай планшэт

Вам ёсць 12 год, вучыцеся ў школе ці гімназіі і маеце "9" ці "10" па любым з прадметаў? Тады наш конкурс "Дзясятачка" – для вас.

У акцыі могуць удзельнічаць школьнікі любой школы ці гімназіі Маладзечанскага, Вілейскага, Смаргонскага, Валожынскага, Мядзельскага, Ашмянскага, Астравецкага раёнаў.

Няхай удзельнічаюць і вашы аднакласнікі, каб вы атрымалі магчымасць зарабіць паход у піцэрыю для ўсяго класа.

Вы можаце дасылаць адзнакі, заробленыя цягам усяго года, але на кожную адзнаку неабходны асобны бланк. Бланкі, на якіх больш за адну адзнаку, не прымаюцца. Удзельнічаюць толькі бланкі, выразаныя з газеты.

Той, хто дашле найбольш бланкаў, атрымае планшэт. Клас, вучні якога былі самымі актыўнымі, пойдуць усе разам у піцэрыю.

Калі ў вас ёсць пытанні па акцыі, задавайце іх нам па пошце, тэлефоне ці ў сацыяльных сетках.

Перадавайце бланкі ці дасылайце па пошце кожны тыдзень, і вы будзеце сярод тых, хто прэтэндуе на невялікія дадатковыя падарункі.

Прымаецца адзнака па любым прадмеце, атрыманая за 2017-2018 навучальны год.

Поўны спіс правілаў акцыі чытайце на сайце rh.by: rh.by/by/457/50/18289/.

**Аддзел інфармацыі.**

### Бланк удзельніка акцыі "Дзясятачка" (№8)

1. Імя, прозвішча______________________
2. Дата нараджэння ______________________
3. Клас
   Школа______________________
4. Населены пункт______________________
5. Тэлефон, па якім можна звязацца з удзельнікам ці бацькамі
6. Прадмет, за які атрыманая адзнака ______________________
7. Якую адзнаку атрымаў ("9" ці "10")__________
8. Дата атрымання адзнакі ______________________
9. Імя, імя па бацьку ______________________
10. Прозвішча настаўніка ______________________
11. Тэлефон, па якім можна звязацца з настаўнікам______________________
12. Подпіс настаўніка______________________

## Жанчыны! Зрабіце падарунак сваім абаронцам – падпішыце іх на "РГ"

### Падпісацца можна:

✓ праз сайт "Белпошты". Зарэгіструйцеся на сайце. Заходзім у акно інтэрнэт-плацяжоў, выбіраем "афармленне падпіскі на друкаваныя сродкі масавай інфармацыі", выбіраем "Алфавітны". Выбіраем тып падпіскі (індывідуальная ці ведамасная).

Ціснем літару "Р", справа гартаем старонкі, пазначаныя сінім колерам. Пад індэксам 632122 – "Рэгіянальная газета".

✓ на пошце,
✓ праз паштальёна
✓ праз плацежна-даведачны тэрмінал

Цана **індывідуальнай падпіскі** на месяц – 3 рублі 50 капеек, на тры месяцы – 10 рублёў 50 капеек.

Цана **ведамаснай падпіскі** на месяц – 10 рублёў, на 3 месяцы – 30 рублёў.

Вы можаце скарыстацца **скідкай за дастаўку**, калі самі будзеце забіраць газету або ў абаненцкай скрыні, або атрымліваць да запатрабавання.

*ПАДПІСНЫ ІНДЭКС: 63212 (індывідуальная), 632122 (ведамасная падпіска).*

## ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

# Якія прычоскі цяпер у модзе і як даглядаеце за валасамі?



**Ангеліна Пятроўская, вучаніца:**
– У мяне заўсёды былі доўгія валасы. У шостым класе я зрабіла "лесвічку" і пафарбавала, пасля чаго валасы сталі непаслухмянымі і дрэнна раслі. Цяпер лячу іх: раблю маскі для росту з гарчыцай і перцам, купляю алей для кончыкаў. Нікому не раю мяняць свой натуральны колер.



**Віталь Лясун, навучэнец:**
– Мне імпануюць дзяўчаты з цёмнымі густымі валасамі. Прыгожа, калі даўжыня валасоў да плячэй. А фарбаваць іх не трэба! Цяпер у модзе натуральная прыгажосць.



**Ірына Валасевіч, цырульніца-мадэльер:**
– Цяпер маладыя дзяўчаты часцей за ўсё абразаюць валасы ў стылі боб-карэ, фарбуюць іх у колер ружовы кварц. Жанчыны ў сталым узросце робяць аднаўляльныя працэдуры. Зімой валасы маюць патрэбу ва ўмацаванні. Раю ўсім дзяўчатам ламінаванне, рэканструкцыю, гарачае аднаўленне.



**Арына Вярхоўская, навучэнка:**
– За свае 15 гадоў я паспела паэксперыментаваць з даўжынёй і колерам валасоў. Была зялёная, фіялетавая, аранжавая, чырвоная, ружовая. Цяпер я вярнулася да прыроднага русага колеру. Мыю валасы чатыры разы на тыдзень, даглядаю з дапамогай лапуховага алею, бальзаму, спрэю.



**Дзмітры Шафрановіч, вучань:**
– Валасы дзяўчыны – вельмі важная дэталь яе знешнасці. Асабіста я ў першую чаргу звяртаю на іх увагу. Мая жарсць – брунеткі. Мяне прыцягваюць доўгія валасы, дагледжаныя і натуральныя. Увогуле, усё залежыць ад чалавека, ад яго камплекцыі.



**Святлана Бялова, педагог:**
– З дзяцінства ў мяне былі валасы да пояса. У савецкі час вялікага выбару сродкаў для валасоў не было, я проста мыла іх адзін раз на тыдзень хвойным шампунем. Летам ад такіх валасоў было горача, асабліва займацца спортам. Таму пасля заканчэння школы я вырашыла іх абстрыгчы.



**Лізавета Коцур, вучаніца:**
– Я фарбавала свае валасы толькі аднойчы, пасля чаго яны сапсаваліся. Цяпер карыстаюся добрым шампунем, маскай для валасоў "эфект ламінавання", рознымі спрэямі. Увогуле, я маю свой ідэал – гэта Пенелопа Крус.

**Падрыхтавала Аліна ШУМЕЛЬ, навучэнка школы журналістыкі "Маладзік".**

Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 5000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№8 (1191) 23.02.2018. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія ЛП №02330 /190 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 204. Падпісана ў друк у 9.00 22.02.2018.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.** E-mail: reklama@rh.by, regionnews@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета", УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.